# З нагоды канфэрэнцыі ў Парыжы

Трэба з задаваленьнем адзначыць, што адказныя палітычныя колы Захаду пачынаюць што раз больш і лепш разумець камуністычную пагрозу і ўсьведамляць неабходнасьць адпаведнага супрацьдзеяньня. Адным з апошніх доказаў гэтага зьяўляецца Канфэрэнцыя вядучых прадстаўнікоў заходняй палітыкі, навукі й культуры, праведзеная на пачатку сьнежаня 1960 году ў Парыжы ў пытаньні палітычнай вайны з бальшавізмам. Больш падрабязныя паведамленьні й матарыялы аб гэтай Канфэрэнцыі зьмяшчаюцца ў вапошніх нумарох нашай газэты.

У сувязі з гэтым мы чуемся забавязанымі выказаць некаторыя нашыя меркаваньні, бо прыгаданая Канфэрэнцыя шырака закранула праблемы, непасрэдна зьвязаныя зь інтарэсамі паняволеных бальшавізмам народаў, у тым ліку й беларускага народу.

Стварэньне сусьветнага фронту палітычнага змаганьня з бальшавізмам — справа, якая даўно чакала сваіх ініцыятараў. Цяжка сабе ўявіць магчымасьць ідэялягічнай перамогі над камунізмам, калі з аднаго боку выступае ўзброены да зубоў усім неабходным і цэнтралізаваны да максімуму маскоўскі штаб сусьветнай камуністычнай рэвалюцыі, а з другога — толькі паасобныя нескаардынаваныя спробы супраціву. У бальшыні-ж некамуністычных краінаў у гэтым кірунку навет і спробаў не рабілася. Што-ж тычыцца палітычнага наступу супраць камунізму, наступу дыпляматычным ці прапагандовым шляхам, дык усе спробы ў гэтым кірунку, калі такія былі, разьбіваліся аб заходнюю мараль гэтак званага «няўмешваньня ў нутраныя справы іншых дзяржаваў». Адначасова маскоўскі цэнтр, усімі сяродкамі падтрымліваючы й пашыраючы сярод вольнага сьвету гэтую выгадную для яго й згубную для Захаду мараль, сам перад умешваньнем у справы некамуністычнага сьвету ніколі не паўстрымліваўся і не паўстрымліваецца, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе легальныя й нелегальныя каналы — ад інфільтрацыі й інсьпірацыі пераваротаў аж да адкрытых пагрозаў ракетамі.

Захаваньне такога палажэньня нічога Захаду не прарочыць, апрача далейшых няўхільных стратаў на карысьць камунізму. Таму ініцыятыву стварэньня сусьветнага цэнтру палітычнага змаганьня з бальшавізмам трэба толькі вітаць. Гэтае мерапрыемства, пры добрай пастаноўцы справы, з увагі на вялікую прыцягальную сілу ідэалаў заходняй свабоды, мае ўсе магчымасьці ня толькі зраўнаважыць, але й перацягнуць на бок Захаду шансы на перамогу ў існуючай вайне ідэяў.

Як ведама, да супрацоўніцтва ў гэтым пачынаньні запрошаныя таксама прадстаўнікі эміграцыяў, паняволеных Масквой народаў. І вось, ужо на першай канфэрэнцыі прадстаўнікі некаторых нацыянальных і рэгіянальных эміграцыйных групаў выявілі тэндэнцыі, якія, на нашу думку, супярэчаць тым прынцыпам, якія зусім натуральным парадкам павінны былі-б легчы ў васнову дзейнасьці творанага арганізму. Такім чынам існуе пагроза, што новы ворган можа стаць на хвальшывую базу й ня выканаць свайго заданьня.

Новая арганізацыя ставіць сабе за мэту змаганьне з камуністычнай ідэялёгіяй, ідэялёгіяй унівэрсальнай, якая прапануе разьвязаць сацыяльныя, нацыянальныя, расавыя й іншыя праблемы народаў усяго сьвету. Зусім відавочна, што новая арганізацыя, супрацьстаўляючы камунізму ідэю свабоды, павінна рабіць гэта на такой-жа унівэрсальнай базе, адкідаючы ўсякія натуральныя й штучныя падзелы паводля якіх-бы там ні было прызнакаў, выключаючы, зразумела, ідэялёгію, якая зьяўляецца аб'ектам ейнай дзейнасьці. Тут асабліва неапраўдальныя й недапушчальныя тыя штучныя рэгіянальныя падзелы паводле палітычнага статусу, якім паасобныя краіны карыстаюцца цяпер у камуністычным блёку, або паводле часу іхнага прабываньня пад камуністычным рэжымам. Што гэта мае супольнае з правам людзей і народаў на свабоду? А якраз гэтага хвальшывага прынцыпу, пакладзенага ў васнову некаторых паважнейшых антыкамуністычных арганізацыяў і ўстановаў ды санкцыянаванага й падтрымліванага заходнімі палітычнымі дзейнікамі, і далей эгаістычна прытрымліваюцца, як свайго нейкага выключнага прывілею, прадстаўнікі эміграцыі сатэлітных краінаў.

Ці не пара было-б ім стукнуць сябе па галаве і ўрэшце ўсьведаміць, што ў дадзеных абставінах свабода на зямлі зможа затрыумфаваць толькі ў сваёй непадзельнай форме. І толькі такой яе павінен уяўляць і прапагаваць твораны штаб палітычнага змаганьня з камунізмам: як свабоду пад усімі поглядамі, свабоду палітычную й духовую, свабоду роўную й непадзельную для ўсіх людзей і народаў.

Зразумела, што ў шмат якіх выпадках існаваньне рэгіянальных аб'яднаньняў, створаных з мэтай рэпрэзэнтацыі й абароны спэцыфічных супольных інтарэсаў пэўнай групы народаў, зусім апраўданае. Такія аб'яднаньні існавалі, існуюць і будуць існаваць далей. Але там, дзе справа датычыць інтарэсаў агульналюдзкіх, прадстаўнікі паасобных групаў павінны выяўляць калі не максімум, дык прынамся мінімум зразуменьня й такту і ня пробаваць выкарыстаць агульныя высілкі толькі для свайго ўласнага дабра.

З другога боку, сваё супрацоўніцтва у фронце палітычнага змаганьня з камунізмам прапануюць і такія арганізацыі, якія, з увагі на іхныя палітычныя праграмы, могуць толькі кампрамітаваць заплянаваны фронт свабоды. У ідэялягічнай плятформе новай арганізацыі стрыжнёвае месца, як неадлучная й вядучая частка заходняй свабоды, неўхільна займе права народаў на самавызначэньне й нацыянальную свабоду й незалежнасьць. У наш час разьвіцьцё нацыянальнай праблемы зь нясустракаючай дасюль хуткасьцяй мяняе палітычнае аблічча цэлых кантынэнтаў. Як правільна было адзначана на Канфэрэнцыі, у Савецкім Саюзе гэтая праблема мае таксама змогу адыграць вырашальную ролю ў эвалюцыі бальшавіцкай таталітарнай каляніяльнай імпэрыі. Таму ўсебаковае падтрыманьне нацыянальных рухаў і змаганьне за поўнае нацыянальнае вызваленьне паняволеных Масквой народаў і аднаўленьне іхных, зьнішчаных бальшавіцкім імпэрыялізмам, незалежных дэмакратычных рэспублікаў выплывае ня толькі з самой лёгікі палажэньня спраў, а і з мэтаў, стаўленых творнай арганізацыяй.

Маючы гэта на ўвазе, узьнікае пытаньне, які ўдзел у гэтым фронце змаганьня за свабоду могуць узяць, напрыклад, расейскія салідарысты, якія, як ведама, над цэласьцяй імпэрыяльнай спадчыны расейскіх цароў і бальшавікоў дыктатараў хацелі-б павесьць сваю «единонеделимскую» шыльду. А якраз яны, якія яшчэ самі не навучыліся паважаць свабоды, першымі пачалі суліць свае паслугі. На вялікі жаль, між Расейцамі такімі зьяўляюцца ня толькі салідарысты...

Таму, шчыра вітаючы шляхотную і мужную ініцыятыву заходніх грамадзка-палітычных дзеячоў, выяўленую ў скліканьні Канфэрэнцыі і ў ейных пастановах, і выказваючы нашую гатовасьць да найбольш цеснага супрацоўніцтва, мы спадзяемся, што фронт палітычнага змаганьня з камунізмам разгорне сваю працу на найбольш шырокіх дэмакратычных асновах і гэтым паложыць пачатак будучаму, вызваленаму ад камуністычнай тыраніі, свабоднаму й справядліваму сужыцьцю вольных і незалежных народаў сьвету.

**Ю. Дубовік**



# „Амэрыка, прачніся!“



**(Заканчэньне з 50-51 нумару)**

Ад Рэдакцыі: У двух папярэдніх нумарох «Бацькаўшчыны» мы зьмясцілі частку артыкулу ведамага філіпінскага палітычнага дзеяча, амбасадара Філіпінаў у ЗША, Карлёса П. Ромулё. У сваім артыкуле, зьмешчаным у лістападаўскім н-ры часапісу «Reader's Digest», аўтар крытычна разглядае дасюлешнюю палітыку Захаду, а ў першую чаргу Задзіночаных Штатаў Амэрыкі — у дачыненьні да камунізму. Ніжэй зьмяшчаем заканчэньне ягонага артыкулу.

☆

Яшчэ адным вынікам заходняй пасыўнасьці ў вабліччы савецкай прапагандовай афэнзывы ёсьць тое, што заходні «каляніялізм» так войстра ганьбіцца грамадзкай думкай сьвету, у той час, як злачынствы чырвонага імпэрыялізму ў дачыненьні да запалоненых ім народаў амаль што забытыя. А так-жа нядаўна было крывава здушанае паўстаньне ў Вугоршчыне; у Тыбэце далей трывае крывавы тэрор; кітайскія збройныя сілы ўсё яшчэ акупуюць частку індыйскай тэрыторыі; камуністычны Кітай выпрабоўвае грунт у Ляосе й Нэпалі. Ня гледзячы на ўсё гэта, Захад не праводзіць сыстэматычнай прапагандовай кампаніі, выкрываючай запраўдныя намеры камуністых.

Зь найменшым посьпехам праводзіць Крэмль сваю кампанію за «мір» і «разбраеньне». А ўсім-жа ведамы факт, што Масква й Пэкін былі беспасярэдня адказныя за літаральна ўсе войны й пагрозы вайны, пачынаючы ад 1945-га году. Прыгадаем міжнародную сэнсацыю, якую камуністы былі здольныя разьдзьмуць у сувязі зь інцыдэнтам самалёту «У-2», і параўнаем гэта зь нядачай Задзіночаных Штатаў узьняць грамадзкую думку сьвету супраць паўторных савецкіх атакаў на амэрыканскія самалёты, якія знаходзіліся над інтэрнацыянальнымі водамі.

Можна было-б падаць безьліч іншых прыкладаў. А што яшчэ горш — камуністычнай прапагандзе дазваляюць узьдзейваць на грамадзкую думку ў самых Задзіночаных Штатах. Былы прэзыдэнт Гэрбэрт Гувэр меў гэта на ўвазе, калі у нядаўнай прамове ён гаварыў аб «шмат якіх грамадзянах, якія уважаюць, што ўва ўсім вінаватыя Задзіночаныя Штаты, і саромяцца за нас.»

Пурытанскі фунд[illegible]мэнт Амэрыкі й ейная сумленнас[illegible]лклікалі нейкі комплекс вінаватасьці. Увайшло ўжо ў моду зьменшваць амэрыканскія дасягненьні, у той час, як савецкія выхвальваньні, ўключна з сумлеўнымі абяцаньнямі будучых дасягненьняў, паказваюцца ў Амэрыцы праз павялічальнае шкло.

Чым мы можам вытлумачыць той факт, што Амэрыка дасюль была нязьдольнай паказаць людзтву запраўдны вобраз свайго грамадзтва і адначасова — запраўдны вобраз камуністычнага сьвету нявольнікаў? Чаму Амэрыка прыймае гэтыя ўдары так абыякава? Бязумоўна, прычынай гэтага напэўна ня ёсьць нястача прапагандовых здольнасьцяў — мова-ж ідзе аб краіне, у якой мастацтва рэклямы так высока разьвітае. Не — не стае іншага: поўнай сьведамасьці вялізарнай важнасьці гэтай фазы працяглага канфлікту.

Трэба разгарнуць усебаковую кампанію грамадзкага выхаваньня — у такіх маштабах, каб з пэўнасьцяй апярэдзіць камуністых. Яна мусіць быць багатай ідэямі, агрэсыўнай, бязбоязнай і гатовай павярнуць уласную зброю камуністых супраць іх-жа — падрыўную дзейнасьць і інфільтрацыю. Але гэта ніколі ня будзе зроблена, пакуль ня будзе ўсьведамленая неабходнасьць зьнішчэньня камунізму — **зьнішчэньня**, а не **супраціву** яму. Толькі тады вы можаце пачынаць гаварыць праўду гэтак-жа беззасьцярожна й эфэктоўна, як вораг пашырае хлусьню.

Ад самай першай гадзіны свайго нараджэньня, савецкі рэжым разглядае Агітпроп — агітацыю й прапаганду — ня менш важнымі, чымся ваенную магутнасьць. Гэтак-жа выглядае справа і з чырвоным Кітаем. Абодва яны выдаткоўваюць мільярды даляраў на гэтую справу. Яны маюць сотні адмысловых школаў, якія выпушчаюць арміі экспэртаў у «прамываньні мазгоў» і падрыўной дзейнасьці. Гэтыя экспэрты разгортваюць сваю дзейнасьць ува ўсім сьвеце. Апрача таго, Масква й Пэкін падрыхтоўваюць Азіятаў, Афрыканцаў, Паўдзённа-Амэрыканцаў, Заходня-Эўрапейцаў і навет грамадзянаў Задзіночаных Штатаў, робячы іх экспэртамі ўсіх рэвалюцыйных мэтадаў — ад прапаганды й сабатажу да вулічных закалотаў і партызанскага змаганьня.

Як доўга вольныя людзі будуць адмаўляць бачыць тое, што мусіла-б быць для ўсіх відавочным: камуністыя могуць зьліквідаваць свабоду ў вольным сьвеце пры дапамозе гэтых прыладаў палітычнай і псыхалягічнай вайны. Як доўга вольныя людзі будуць разглядаць гэтую вялізарную пагрозу «толькі» як халодную вайну, нешта другараднае, што можна зьліквідаваць сацыяльнымі акцыямі й абменам танцораў?

1960-я гады — гэта гады крызысаў. Гэта час для гэраічных пастановаў — пастановаў, якія ўрэшце рэштаў дапамогуць вольнаму сьвету пачаць афэнзыву. Цяпер ужо далёка запозна для нэгатыўнай, чыста абароннай стратэгіі. Так мы ня выйграем. Мы мусім павесьці контратаку з усёй сур'ёзнасьцяй, выкарыстоўваючы ў вялікім маштабе канцэнтрацыю інтэлекту, здольнасьцяў і бюджэту — усё, што мы маем — дзеля таго, каб перамагчы камуністых у імі-ж пачатай вайне.

Усё тое, што я тут сказаў Амэрыцы, якую я люблю й падзіўляю, у нязменшай ступені тычыцца ўсіх вольных народаў і майго ўласнага між імі. Свабода сталася непадзельнай. Згадзіцца на поўнавольніцкі, поўсвабодны сьвет — гэта найбольш пэўны шлях да капітуляцыі.

Новых барбараў нельга падкупіць ці ўстрымаць. Іх **трэба перамагчы**. Гэта ўсё яшчэ можна зрабіць бяз атамнай вайны — усебаковай афэнзывай у галіне прапаганды, эканамічнай дапамогі, грамадзкага выхаваньня і, гаворачы агулам, — адказваючы агнём на агонь у кажнай частцы зямной кулі.

Мы ўсё яшчэ можам загнаць камуністых на абаронныя пазыцыі. Ёсьць безьліч слабых і ўражлівых месцаў у камуністычным лягеры — і мы можам іх выкарыстоўваць. Мы можам павярнуць уласную зброю камуністых, уключна зь інфільтрацыяй і падрыўной дзейнасьцяй, супраць іх самых. Мы можам ствараць «крызісы» ў **іхнай уласнай** тэрыторыі, замест таго, каб пасыўна чакаць на крызісы ў нас. Мы можам падрыхтаваць спэцыялістых у кажнай галіне халоднай вайны, замест таго, каб спадзявацца на аматараў. Мы можам падтрымоўваць надзею на вызваленьне сярод нашых паняволеных братоў у камуністычным ярме.

Прымірэньне зьяўляецца гэткім-жа ненадзейным сяродкам у халоднай вайне, якім яно выявілася на працягу стагодзьдзяў у вайне гарачай. Сталая апатыя ці поўмерапрыемствы ў змаганьні, якое цяпер адбываецца, будзе толькі заахвочваць камуністых недаацэньваць нашай волі супраціву і, эвэнтуальна, такім чынам яны могуць загнаць нас усіх у кут, дзе мы павінны будзем выбіраць паміж атамнай вайной і капітуляцыяй.

Адзіны магчымы выхад — гэта змагацца ў гэтым працяглым канфлікце ў два разы больш жорстка, у два разы больш эфэктоўна, чым цяпер змагаюцца камуністыя. Мы мусім пачаць усебаковую атаку, паварочваючы кажную камуністычную прыхватку, кажны іхны спосаб — ад прапаганды да інфільтрацыі — супраць нашага сьмяротнага ворага. Гэта адзіны шлях да перамогі ў змаганьні за тое, каб выжыць.

**Карлёс П. Ромулё**

## ЗВАРОТ

### ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У НЬЮ-ЁРКУ ДА БЕЛАРУСАЎ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ, У ССЫЛКАХ І НА ВЫГНАНЬНІ

Зьехаўшыся 20 лістапада 1960 году ў Нью-Ёрк на свой чарговы гадавы зьезд, беларускія вэтэраны Амэрыкі выказваюць станоўкую наважанасьць да далейшага змаганьня за волю й свабоду Беларусі. Беларускія вэтэраны заклікаюць усіх суродзічаў не пасьлабляць працы над ажыцьцяўленьнем ідэялу Беларускае Народнае Рэспублікі, што была абвешчаная ў Менску 25 сакавіка 1918 году незалежнай дэмакратычнай дзяржавай усяго беларускага народу.

Для кажнага народу ягоная нацыянальная свабода — гэта найвялікшы скарб, які здабываецца часта цаной нязьлічоных ахвяраў крыві й жыцьця.

За апошнія сорак гадоў няволі наш народ паказаў сьвету, што ён высака цэніць сваю нацыянальную свабоду ды што ніякія паняволеньні ня здолеюць спыніць ягонага імкненьня да здабыцьця яе. Тысячы гераічных сыноў і дачок Беларусі злажылі на аўтар нацыянальнае свабоды найкаштоўнейшае, што мелі — сваё жыцьцё. Тысячы іх усё яшчэ пакутуюць па савецкіх канцлягерах Сібіру й дзікое Поўначы. Гэтай высакароднай ахвярай яны забавязалі ўсіх нас да далейшага нясупыннага высілку — аж пакуль ня будзе дасягнутая воля, свабода й непадзельнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі.

Беларускія вэтэраны Амэрыкі запэўніваюць усіх сваіх суродзічаў, што ня спыняць змаганьня з паняволнікамі беларускага народу — хто-б яны ні былі — у імя дэмакратычнага ладу й нацыянальнае свабоды Беларусі.

Нью-Ёрк, 20 лістапада 1960 г.

**Зьезд Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў Амэрыкі**



# ЗВАРОТ



### МІЖНАРОДНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ, ПРЫСЬВЕЧАНАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ВАЙНЕ САВЕТАЎ

**(Глядзі «Бацькаўшчына», № 50-51, 1960)**

Міжнародная канфэрэнцыя прысьвечаная палітычнай вайне Саветаў, якая адбылася ў Парыжы ад 1-га да 3-га сьнежаня 1960 году, прыгадвае вольнаму сьвету:

— Што таталітарная сыстэма, да якое зводзіцца цяпер камунізм, ставіць сабе за непахісную мэту, ня гледзячы на ўсе ейныя тактычныя зыгзакі, паняволіць усе нацыі; камунізм павінен зьнішчыць свабоду ўсюды, бо ў іншым выпадку свабода яго зьнішчыць самога на апанаванай ім тэрыторыі;

— Што ня могучы дасягнуць гэтай мэты шляхам вайны, дзякуючы перш за ўсё ваеннай магутнасьці Паўночна-Атлянтычнага Пакту, Крэмль узмацняе свой наступ у цывільнай галіне, намагаючыся падарваць і пазьней заваяваць свабодныя нацыі зь сярэдзіны, з дапамогай вялізарнага апарату палітычнай вайны. На гэтую вайну ён выдаткуе больш за два мільярды даляраў у год. Галоўнай зброяй Крамля зьяўляецца інфільтрацыя ў дэмакратычныя рухі й інстытуцыі, старанная арганізацыя прапагандыстых і іхных ахвяраў, маніпуляваньне асобамі, эканамічны сабатаж і, перш за ўсё, адкрытая й патаемная прапаганда, якая апаноўвае й раскладае ўсе без выключэньня клеткі грамадзтва;

— Што гэтая машына дзеля падпарадкаваньня думкі, зьяўляючыся беспрэцэдэнтнай ў гісторыі чалавецтва, працуе ня ў кірунку дасягненьня таго, што было калісьці камуністычнай дактрынай, а стаіць проста на штодзённай службе замежнай палітыкі Крамля;

— Што якраз гэтая машына, а не ягоная армія, забясьпечылі Крамлю ўсе ягоныя посьпехі пасьля вайны, пачынаючы ад Ялты аж да Кубы;

— Што ў той час, калі вольны сьвет падрыхтоўваецца толькі да ракетнай вайны, **якая магчыма ніколі не адбудзецца**, — ён, вольны сьвет, застаецца, нажаль, глухім, сьляпым і нямым на фронце палітычнай вайны — вайны ўжо вырашальнай, якая ўжо адбываецца. Ён не разумее, што няма ніякага сэнсу узбройвацца фізычна, у той час, калі ён пасыўна дае магчымасьць ворагу разьзбройваць сябе духова;

— Што неабходна супрацьпаставіць унівэрсальнасьці паняволеньня, якую ўвасабляе камуністычная сыстэма, іншую ідэю, гэткую-ж унівэрсальную, якой можа быць толькі задзіночаньне вольных народаў.

У выніку, Канфэрэнцыя заклікае вольны сьвет:

— Як найхутчэй выправіць гэтую цяжкую памылку, за якую, на працягу наступных гадоў, цывілізацыя можа заплаціць жыцьцём;

— Беспасярэдня супрацьставіцца камуністычнаму апарату палітычнай вайны, выкарыстоўваючы адпаведныя рэсурсы й робячы патрэбныя высілкі, каб справа вольнага сьвету, якой зьяўляецца Праўда, і ў якую ён зноў павінен пачаць верыць і ёю ганарыцца, была пачутая гэтак-жа голасна, як варожая хлусьня;

— Падрыхтаваць з гэтай мэтай усе адпаведныя ворганы як на ўрадавым пляне, так і ў галіне грамадзкай думкі, з мэтай вывучэньня небясьпекі й ацэны яе, аздараўленьня духу й мабілізацыі дабраахвотнікаў;

— У прыватнасьці стварыць Галоўныя Штабы Палітычнай Вайны і школы, якія будуць фармаваць сьведамых змагароў за дэмакратыю;

— Заснаваць рух **місіянэраў свабоды**, якія, жывучы сярод насельніцтва слаба разьвітых краінаў і дапамагаючы яму палепшваць ягоны жыцьцёвы ўзровень, здолеюць, дзякуючы здабытаму такім чынам аўтарытэту, усьведамляць яго сваім прыкладам у палітычнай галіне. Гэта зьяўляецца адзіным спосабам не дапусьціць да таго, каб яно паддалося камуністычнай дэмагогіі;

— Паралельна з гэтай **абароннай** акцыяй, праводзіць акцыю **наступальную**, імкнучыся выклікаць цяжкасьці для камуністычных валадароў на іхным нутраным фронце, **дзе яны адчуваюць сябе слабымі**, паказваючы незаконнасьць іхнай улады, і бесьперапынна дамагаючыся самавызначэньня для іхных грамадзян і іхных **скалянізаваных народаў**, кансалідуючы і падтрымліваючы нясупынны супраціў гэтых народаў, які яны выяўляюць у дачыненьні да іхных прыгнятальнікаў; гэта зьяўляецца найлепшым шансам для загарантаваньня трывалага міру — праз ліквідацыю без вайны дыктатуры Масквы й Пэкіну;

— Ставіцца да савецкіх запэўніваньняў у суіснаваньні як да ашуканства так доўга, пакуль забарыкадаваны сьвет з таго боку Зялезнай заслоны не атрымае магчымасьці свабоднага абмену — пакуль ён ня будзе адкрыты без абмежаваньняў для ідэяў, кнігаў, часапісаў, для дэмакратычных плыняў Захаду;

— Адмовіцца ад мяккай, лёгкавернай і нескаардынаванай дыпляматыі, якая беспасярэдня спрычыняецца да павялічэньня нахабнасьці агрэсараў, а гэтым самым і збольшаньня напружаньня, і павесьці супольную й цьвёрдую палітыку вольнага сьвету, бо толькі яна здольная паўстрымаць Крэмль ад агрэсіі.

Вольныя людзі ўсіх краін, задзіночвайцеся!

# 65-ыя ўгодкі Ген. Францішка Кушаля

Зьезд Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью-Ёрку, што адбыўся 20 лістапада сёлета, складаўся зь дзьвюх частак. Другою часткай было прыняцьце, наладжанае ўправаю ЗБВ, у гонар генэрала Францішка Кушаля, якому нядаўна споўнілася 65 гадоў жыцьця. Прыняцьце, вакол бясёдных сталоў, адбылося ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру, дзе праходзіў і зьезд. Бясёду адчыніў стар-



Генэрал Францішак Кушаль

шыня ўправы ЗБВ у Нью-Ёрку сп. Ул. Курыла, сказаўшы наступную прамову:

«Дастойныя госьці, вельміпаважаныя Спадарыні й Спадары, высокапаважаны Спадару Генэрале!

З нагоды 65-годзьдзя Вашых народзінаў і шматгадовае грамадзкае працы, стараньнем сяброў Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў і некаторых Спадарыняў мы наладзілі вось гэтае, хоць сьціплае, але шчырае, прыняцьцё. А ўсе тут прысутныя, я веру, прыбылі сюды з найлепшымі пажаданьнямі, каб ушанаваць гэтую ўрачыстасьць.

Мы апынуліся за межамі свае бацькаўшчыны. Пакінулі родны край нашыя сяляне й работнікі, нашая інтэлігенцыя, дарослыя й малыя. Супраць свае волі адступілі й мы, жаўнеры. Але-ж мы канчальна не скапітулявалі. Духова мы ўсьцяж жывём на Беларусі — мовай, песьнямі, танцамі, урачыстасьцямі, усім нашым грамадзкім жыцьцём. А нашая грамадзкая праца, матар'яльныя й інтэлектуальныя высілкі — гэта й ёсьць працяг змаганьня за найдаражэйшае — за родны край.

Нажаль із сумам трэба сказаць, што шмат нашае інтэлігенцыі пакінула свой народ, ці то для матар'яльных выгодаў, ці мо дзеля слабой волі. І вось тут я хацеў-бы падчыркнуць Вашую, Спадару Генэрале, адданасьць гэтай справе нязломнага змаганьня. Вас і Вашую Спадарыню, паэтку Натальлю Арсеньневу, не зламалі ніякія цяжкасьці. Вы — прыклад адданасьці справе, для якое мы жывём, і нам, асабліва маладзейшым, трэба з Вас браць прыклад. Мы просім Вас, каб Вы й Вашая Спадарыня, а нашая слаўная паэтка, сваім талентам узбагачалі далей наш духовы скарб, нашую вайсковую гісторыю й літаратуру. З гэтым пажаданьнем мы даручаем Вам сымбалічны падарунак — пяро. Яно-ж гэткае магутнае, як і зброя. Зычым Вам шмат гадоў шчасьлівага жыцьця. Памажы Вам Божа!»

☆

Удзельнікі прыняцьця, ад імя арганізацыяў і прыватна, таксама віталі Генэрала Кушаля ды зычылі яму плённае далейшае працы. Юбіляр на гэтыя зычэньні адказаў падзякай і запэўненьнямі.

**Я. Запруднік**

# Сёе-тое

Ужо добра відаць, што вядучыя заходнія дэмакратычныя краіны не патрапілі выкарыстаць нагоды ў Асамблеі Задзіночаных Нацыяў: паставіць у цэлай шырыні пытаньне маскоўска-бальшавіцкага каляніялізму. З таго, што гаварылася, відаць, што й ня было намеру.

У часе пераходу ўлады ад аднае партыі да другой амэрыканскі палітычны апарат амаль спараліжаваны. Тымчасам Францыя завязла па вушы ў Альжыры і разматаньне самой сплеценага гардыянскага вузла займе, як відаць, нямала часу. Ангельшчына-ж глядзіць на ўсё з традыцыйнай рэзэрвай.

Шкада змарнаванай і мо непаўторнай нагоды.

☆

Дбала прасачыўшы матар'ялы савецкае прапагандовае барабаншчыны ў бэсэсэраўскіх газэтах апошняга часу, можна заўважыць шматлікія і амаль стэрэатыпныя паведамленьні карэспандэнтаў зь мясцоў: у раёнах і калгасах растуць «як грыбы» гэтак званыя камбінаты бытавога абслугоўваньня насельніцтва. Што гэта такое? Паводля «селькораў» гэта шавецкія, кравецкія, сталярскія й іншыя майстэрні, найчасьцей дзьве першыя, спалучаныя ў вадно прадпрыемства. І з ноткай удзячнасьці «роднай і любімай партыі» пішуць: «цяпер зайдзеш у камбінат і можаш плацьце й вобуў пашыць з добрага матар'ялу».

Вось дык ёсьць чым цешыцца! Гэта на парозе Мікітавага камунізму бальшавіцкія прыгоньнікі ня могуць нацешыцца тым, што нарэшце нейкую сукенку ці боты пашыць могуць з выбранага самымі матар'ялу. А што-ж будзе, як нарэшце зьявіцца доўгапрарочаны камунізм! Дык гэта-ж начамі спаць ня будуць ад захапленьня

І да чаго толькі нельга давесьці людзей у камплетнай галіце!

☆

Гавораць аб супольнай мэце, адзінстве, маналіце заходня-дэмакратычнага блёку й г. д. Калі-ж прыйдуць да дзеяньня, дык разьбягаюцца быццам тое стада авечак перад ваўком. Маем наўвеце перадусім Задзіночаныя Штаты й Кубу ды Канаду. Нядаўна амэрыканскі ўрад амаль суцэльна адрэзаў гандлёвыя зносіны з Кастравай Кубай. Як ведама, Кастра нацыяналізаваў амаль усю амэрыканскую маемасьць на Кубе без рэкампэнсаты, г. зн. проста ўкраў, ці, як хочаце сказаць мякчэй, прысвоіў. Куба была некалі поўнасьцю эканамічна залежнай ад Задзіночаных Штатаў. Прыкладна ўсе машыны на абтоку ёсьць амэрыканскае прадукцыі. Маюцца на ўвеце ня толькі транспортныя машыны, але й хвабрычныя, нафтавых рафінэрыяў, будаўляныя й іншыя. Машыны без запасных частак могуць ісьці адно на злом. І вось, адрэзаўшы крыніцы даставаў гэтых запасных часьцей, Амэрыканцы меркавалі мусіць, што балюча ўдараць па кастравай краіне. Пералічыліся.

На дапамогу Кубінцам прыйшлі Канадыйцы. Ды ня толькі продажай харчоў. Як ведама, з Канады ці праз Канаду можна дастаць большыню ўсяго запаснога да амэрыканскіх машынаў. Вашынгтонскія «добрыя сябры» з Аттавы ўжо мяркуюць, што лёгка ўдасца падвысіць гандаль з Кубай да сумы 150 мільёнаў даляраў у першы год, а пасьля й больш.

Амэрыканцы глядзяць на гэта з алярмам. Задзіночаныя Штаты хацелі-б зьліквідаваць першае камуністычнае гняздо ў заходняй гэмісфэры. Але бізнэсмэнам, відаць, і юдаўскі даляр не сьмярдзіць. Дык і пры чым тут Мікіта?

☆

Кагадзе прыйшла да нас вестка, што ў Монтрэалі паўстаў аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады. Калі так, то віншуем. Лепш позна, чым ніколі. Даволі драмаць. Жадаем вялікіх посьпехаў у працы!

**Міхась Козыр**

# Вечная ім памяць і слава!

**(Да 42-годзьдзя Вяліскага Паўстаньня)**

Усіх нас не расстраляеце! — напіс на вянку, які знайшлі на брацкіх магілках вяліскіх паўстанцаў.

Мне не аднойчы даводзілася ў мінулым пісаць аб Вяліскім паўстаньні ў лістападзе 1918 г. Першакрыніцай у гэтай галіне меліся стацца мае ўспаміны, як удзельніка й сьветкі паўстаньня, але... Папершае, аўтару ўспамінаў было тады 13 год, падругае, з гэтае прычыны ён змагаўся з бальшавікамі ня із зброяй у руках, а як пашыральнік паўстанцкіх адозваў, патрэйцяе, што таксама зусім зразумела ў сувязі зь ягоным тагачасным векам, ён не знаходзіўся ў цэнтры падзеяў, а таму ня меў лучнасьці зь кіраўнікамі паўстаньня, хоць асабіста і ведаў іх, аб чым дазнаўся значна пазьней.

Аднак далей, на працягу ўсяго свайго падсавецкага жыцьця, я, шмат чым рызыкуючы, упарта зьбіраў весткі аб Вяліскім паўстаньні ад ягоных дарослых удзельнікаў, што цудам захаваліся ад расстрэлу й катаргі. І хлапчукоўскія ўспаміны, якія былі пераважна ад сэрца, прайшоўшы празь фільтар розуму, набывалі такім чынам уласьцівую старэйшым абгрунтаваную сталасьць. Разам з тым мае патаемныя спробы знайсьці штонебудзь у літаратуры аб гэтым паўстаньні ня мелі посьпеху. Аб ім за ягоныя часы шмат згадвалася ў савецкім друку, але потым усё гэтае зьнікла ў сакрэтных сховішчах архіваў. Ніхто й нідзе не адважваўся там пісаць аб Вяліскім паўстаньні, бо бальшавікі вырашылі выкрэсьліць яго і зь гісторыі і з памяці народу.

І прыемна зазначыць, што навет бальшавікі збанкрутавалі ў гэтым сэньсе. Прашу ў чытачоў дазволу нагадаць аб маім артыкуле «Пра вельмі й вельмі блізкае», надрукаваным у № 511 «Бацькаўшчыны» ад 10 ліпеня 1960 г. У ім мне давялося пазнаёміць нашую грамадзкасьць з сучаснай савецкай кніжкай, у якой акупанты Беларусі ўсё-ж вымушаныя былі жыцьцём напісаць:

**«З 11 па 17 лістапада 1918 г. амаль уся Віцебская губэрня была ахоплена контррэвалюцыйным паўстаньнем, што выбухла ў Вяліскім павеце і перакінулася ў іншыя месцы».**[1]



Віктар Жаўняровіч: «Бярэзьнік»

А цяпер карыстаюся з нагоды ўгодкаў паўстаньня, каб дадаць да гэтага тое новае, што зьявілася аб ім у тамашнім друку.

З прычыны 40-годзьдзя Усерасейскае Надзвычайнае Камісіі ў СССР зьявіліся паасобныя кніжкі, прысьвечаныя гісторыі гэтае жудаснае катавальні. У вадной зь іх, а ўласьне:

П. Г. Софінаў
Нарысы гісторыі Усерасейскае Надзвычайнае Камісіі 1917-1922
Дзяржаўнае Выдавецтва Палітычнае Літаратуры, Масква 1960 г.

на бачыне 118-й чытаем:

**«У верасьні-лістападзе 1918 г. Усерасейская Надзвычайная Камісія выявіла і ліквідавала контррэвалюцыйныя змовы ў Разані, Кастраме, Вышнім Валачку, ВЯЛІЖЫ** (падчыркнуў Ю. В.), Барысаглебску і ў шэрагу іншых гарадоў».

Варта наўмысьля зацеміць, што калі згаданая мной у артыкуле «Пра вельмі й вельмі блізкае» кніжка была прызначаная вылучна для чытачоў БССР, дык гэтая, выдадзеная ў Маскве — для чытачоў усяго СССР. Паводля анатацыі да яе, ейны аўтар зьяўляецца доктарам гістарычных навукаў і прафэсарам. А самая кніжка, як сьветчыць тая-ж анатацыя, ёсьць «дакумантальным нарысам дзейнасьці Усерасейскае Надзвычайнае Камісіі», г. зн. напісаная на падставе дакумантаў з архіваў Надзвычайкі

І дазвольце перайсьці да бадай асабістага, за што прашу прабачэньня. Летась, у № 43 (332) газэты «За вяртаньне на Радзіму» зьявіўся вялізны артыкул «Далёкае і блізкае», прысьвечаны больш чым на палову перакручанаму жыцьцяпісу ды ўсялякаму ганьбаваньню Юркі Віцьбіча. Гэты артыкул наагул не заслугоўвае аніякае ўвагі, каб не ягоны адмысловы разьдзел пад назовам — «Міт аб Вяліскім паўстаньні» — якое, як недарэчна сьцьвярджае недалужны аўтар, зьяўляецца, маўляў, выдумкай Юркі Віцьбіча. Аднак, як бачым, самі расейскія бальшавікі, наўсуперак бездапаможнае чаўпні іхняга бэсэсэраўскага калябаранта, сьцьвярджаюць, сьцяўшы зубы ды сьціснуўшы кулакі, запраўднасьць Вяліскага паўстаньня, а значыцца й слушнасьць Юркі Віцьбіча.

Не падлягае сумлеву, што Вяліскае паўстаньне балюча далося бальшавіком у знакі, калі праз 40 год яны аб ім німаволі згадваюць. Пэўне-ж яны ня здужалі пахаваць яго, бо ня ў стане зьнішчыць нязломны народ, у памяці якога яно жыве. А гэты вялікі беларускі народ, як і ягоная палітычная эміграцыя ніколі не забудуць сваіх вяліскіх змагароў, што загінулі ў барацьбе за волю. Вечная ім памяць і слава!

[1]) Камітэты беднаты Беларусі. Зборнік дакумантаў і матар'ялаў. Архіўнае кірва Мін. Унутр. Справаў БССР. Выдавецтва Акадэміі Навукаў БССР. Менск, 1958 г. бач. 146.

**Юрка Віцьбіч**



# „Акоў паломаных жандар“

**(Заканчэньне з папярэдняга нумару)**

Справа школаў і інтэлігенцыі. І ў часы адкрытага нявольніцтва гаспадары вывучалі сваіх нявольнікаў розных прафэсіяў. Аднак, ці зьмянялася ад гэтага становішча нявольнікаў? Не, калі ня лічыць некаторых матарыяльных палягчэньняў паасобных зь іх. Чалавек любіць свабоду й імкнецца да гэтай свабоды. Складовай часткай гэтай свабоды зьяўляецца й нацыянальная незалежнасьць. Думаем, Шлапаку не патрэбна паясьняць, што такое свабода, у тым ліку й нацыянальная. А што дае савецкая сыстэма? Пра гэта гаворыць сам Шлапак, пенячыся з таго факту, што падсавецкія народы жадаюць свайго дзяржаўнага й нацыянальна-культурнага развою.

Ня будзем тут затрымоўвацца на асьветчаньні Р. Шлапака, што ў Савецкім Саюзе, у тым ліку й у БССР, збудаваны сацыялізм, а таму беларускі народ ужо дапяў свайго жыцьцёвага ідэялу. Што-ж, на гэтым крывадушшы Шлапак зарабляе свой хлеб, і яму не да справы, як гібее ўвесь народ. Зьвернем толькі ўвагу, што не асьветчаньне важнае, але сама жывая рэчаіснасьць. Масква сяньня цьвердзіць, што яна — Бог, але ў народах яна выступае як Чынгіс-хан XX стагодзьдзя.

Асабліва Шлапаку не да спадобы, што на Захадзе, у тым ліку й В. Колярц, савецкі каляніялізм зьвязваюць з традыцыяй Расеі, з каляніялізмам расейскага народу. Ён проста зьвярэе пры сустрэчы з такімі вывадамі. Як гэта можна абвінавачваць падобна народ, які гісторыяй «пакліканы» панаваць над іншымі народамі. Пайменна так, з гэтага пункту гледжаньня падыходзіць да сутнасьці справы Р. Шлапак. Для яго альфай і амэгай зьяўляецца неабходнасьць расейскага панаваньня над іншымі народамі. «Во главе с русским народом» — такі закон гісторыі! А таму ён і прапануе цалюткаму, пайменна цалюткаму сьвету (б. 318) «следовать указанному пути и во главе с русским народом».

Што да беларускага народу, ён зазначае: «Некаторым спадаром хацелася-б бачыць Беларусь адарванай ад сям'і савецкіх народаў. Аднак гэтаму ня быць — беларускі народ сотні гадоў таму назад назаўсёды зьвязаў свой лёс з сваім аднакроўным старэйшым братам — расейскім народам. У супольным змаганьні й зь ягонай дапамогай беларускі народ ськінуў эксплятататараў, дабыў сваю дзяржаўную й нацыянальную самастойнасьць...»

Ня ведама толькі, для чаго тут Шлапак уплёў словы «здабыў сваю дзяржаўную й нацыянальную самостойнасьць»? Проста паводля савецкага звычаю, як гэта ў выпадках, што калі Ленін, дык абавязкова «вялікі». «Зьвязаў свой лёс з расейскім народам» і «ніколі ня быць незалежнасьці беларускага народу», здаецца, ніяк ня вяжуцца з «здабыцьцём» дзяржаўнай і нацыянальнай самастойнасьці. Хібашто гэтая лёгіка натолькі разумная, што яна зразумела толькі Р. Шлапаку. Што-ж, чалавек падкаваны на ўсе чатыры ў савецкай дыялектыцы.

Наагул-жа Р. Шлапак дагаварыўся да таго, што беларускага народу, беларускай нацыі наагул ня існуе на сьвеце. Як ведама, у Савецкім Саюзе пад «буржуазным нацыяналізмам» падразумляваюцца найменшыя імкненьні нерасейскіх народаў да захаваньня свае апрычонасьці, не гаворачы ўжо пра нацыянальную самастойнасьць ці незалежнасьць. Як мы маглі канстатаваць вышэй, Шлапак зусім згодны з Н. Вакарам у тым, што беларускі нацыяналізм — чужая зьява беларускаму народу. Ды Шлапак проста заяўляе, што «беларускага нацыяналізму ня існуе ў прыродзе» (б. 316). Мы згодныя, калі гэты «нацыяналізм» прыраўноўваць да расейскага шавінізму. Такога нацыяналізму няма ў Беларусаў. Але як-жа яго разумее Шлапак? Чыста пасавецкаму ці павакараўскаму, г. зн., што нацыяналізмам ён называе праўнае імкненьне дадзенага народу да нацыянальнай незалежнасьці. А гэта ў ягоным разуменьні таксама й «чужая агентура», справа рук «зраднікаў». Ён таму й цьвердзіць, што ў «часы разгулу контррэвалюцыі буржуазныя беларускія й жыдоўскія нацыяналісты высунулі ідэю ўтварэньня буржуазнай Беларускай дзяржавы, **залежнай ад капіталістых Захаду».** Калі ўжо дапускаць гэтую фатальнасьць абавязковай залежнасьці ад Захаду, дык на цьвярозую лёгіку чаму-ж тады не засуджваць рэальную залежнасьць ад Расеі. У гэтым выпадку аднолькава павінны разглядацца як «буржуазныя нацыяналістыя», што «імкнуліся» прадаць Беларусь і Польшчы, і Нямеччыне, і Францыі, і г. д., так і «истинные» Беларусы-«бальшавікі», што прадалі гэтую Беларусь Расеі.

Апрача гэтага, Р. Шлапак ідзе яшчэ далей, адмаўляючы беларускае нацыянальнае адраджэньне канца XIX — пачатку XX стагодзьдзяў ды, як-бы было не парадаксальна, зьвязваючы беларускі «буржуазны нацыяналізм» з расейскай чарнасоценскай рэакцыяй таго часу. Усе мэтады дапушчальныя, абы толькі скампрамітаваць беларускі незалежніцкі рух, адарваць яго ад народу. Гэтак, на сьцьверджаньне В. Колярца, што Янка Купала й Якуб Колас яшчэ задоўга да бальшавіцкага перавароту сталіся духовымі праваднікамі беларускага адраджэнскага руху й праз усё сваё жыцьцё заставаліся тымі, каго Масква называе «буржуазнымі нацыяналістамі», заставаліся ў народзе нацыянальнымі правадырамі, Г. Шлапак ускрыквае — «это клевета!» (б. 310). «Няўжо мог буржуазны нацыяналісты, — пеніцьца ён, — клікаць народ да паўстаньня супраць цара, паноў і капіталістых?»

Як тупы Р. Шлапак у знаньні дзейнасьці гэтых нацыянальных герояў, праўдзівей, як тупыя ягоныя мэтады схаваць гэтую іх дзейнасьць ад беларускага народу. Аднак ці здольныя асьліныя вушы закрыць сьвету сонца!

Што гаворыць, напрыклад, твор Якуба Коласа «Сымон Музыка», хоць аўтар і вымушаны быў перарабіць канцоўку пад ціскам чэка. Адмоўны герой гэтага твору Дамінік — ці гэта ня постаць бальшавіка? За «буржуазны нацыяналізм» Янка Купала быў даведзены да кроку самагубства яшчэ ў 1930 годзе, калі ён перад нямінучым арыштам разрэзаў сабе жывот. У 1942 г. ён наагул быў зьнішчаны маскоўскімі сатрапамі. А колькі іншых беларускіх пісьменьнікаў, навукоўцаў, палітычных дзеячоў паплаціліся сваімі жыцьцямі ў 1930-х гадох у выніку так званага працэсу над «нацдэмамі».

Каб шмат не спрачацца з нашым маскоўскім цівуном Шлапаком, прывядзём верш Янкі Купалы «Акоў паломаных жандар», напісаны ў 1926 годзе з нагоды расейскага наступу на беларускую мову. Янка Купала пісаў у гэтым вершы:

# Міхась Васілёк

Даляцела на Захад сумная вестка, што памёр беларускі паэта Міхась Васілёк.

Зь Міхасём Васільком я спаткаўся ў Рэдакцыі «Маланкі» ў 1927 ці 1928 годзе. Васілёк працаваў у Рэдакцыі, а я прыносіў туды час ад часу свае вучнёўскія вершыкі й быў нейкі час тэхнічным працаўніком адміністрацыі часапісу.

Міхась Васілёк паходзіў зь вёскі Капцэвічы каля Ськідзеля на Горадзеншчыне. Праўдзівае ягонае прозьвішча было Косьцевіч, як і ягонага дзядзькі Макара Краўцова. Выбар літаратурнага псэўдоніму найлепш характарызуе самога паэту й ягоную паэзію, якая была чыста сялянскай, глыбока лірычнай і пасталінейнай, бяз модных у наш час вычмураньняў і чужых уплываў.

Васілёк — найбольш улюбленая сьціплая краска беларускіх жытнёвых ніваў. Характэрнае асяродзьдзе: пяшчаная глеба, рэдзенькае жыта, а наўкола сасновы бор. Такі абраз стаяў уваччу Максіма Багдановіча («сінее край зубчаты бору»), калі ён пісаў свае «Слуцкія ткальлі». Гэты абраз прадстаўлены словамі народнае песьні: «А сіненькі васілёк — баравое зельле»... І адбіцьцём гэтакага абраза быў выдадзены перад вайною ў Вільні першы зборнік вершаў паэты п. н. «Шум баравы». Водгульлем пачуцьцяў, выкліканых гэтым вобразам, быў і вучнёўскі часапіс, які я тады рэдагаваў і які зваўся «Васілёк». Адзін з нумароў часапісу пачынаўся вершам Міхася Васілька, прысьвечаным вучнёўскай моладзі Віленскай Беларускай Гімназіі:

Вышэй грудзі!
Горда выйдзем
На спатканьне
Віхру — буры.
Змрок пануры
Сонца зьзяньнем
Ў пыл разьвеем.
Хто нас сьмее
Паўстрымаці!?
Моладзь — мы,
Вышэй сьцяг, брацьця!

Увесь верш не захаваўся ў памяці.

З Васільком асабіста не давялося больш спаткацца. У часе вайны спаткаў ягоныя вершы ў «Раніцы», поўныя тугі за Бацькаўшчынай і дачушкай, ад якой яго адарвала вайна за чужыя справы. Па вайне — новыя акупанты, якіх так ненавідзеў Васілёк і якім яшчэ перад вайной прысьвечаны быў верш, сьпяваны беларускай моладзьдзю ў Заходняй Беларусі на мэлёдыю расейскага марша п. н. «Апошнія часіны» (польская «Перша брыгада»):

Пашто вы нам, каб баранілі,
Пашто вы нам, каб тут былі.
Пайшлі туды, дзе раней былі,
Пайшлі туды, адкуль прышлі!

У бой. Беларусы.
Ськідайце прымусы!
Даволі край наш родны нёс
Цяжкі жыцьцёвы лёс, жыцьцёвы лёс.

Ідзіце проч, бо кроўю змыем
Мы вас з радзімае зямлі
І ганьбай вечнай вас акрыем.
Ідзіце проч, адкуль прыйшлі!

У бой, Беларусы ... і г. д.

Пачаў зьбірацца гнеў народны,
Ён пярунамі загрыміць
І дух збунтуецца свабодны —
Народ наш вольным хоча быць!

У бой, Беларусы ... і г. д.

Вынішчылі бальшавіцкія галадранцы красу й багацьце краю нашага — лясы й бары. Навет карчы выкопваюцца, каб распаліць тарповыя цагелкі. Заглушае чужая кукуруза родныя васількі. Заглухае і паэзія на зямлі беларускай. Узамен яе цьвіце падхалімнае трактарнае codeвершаплёцтва.

**Алесь Аер**

# „Калючая ружа“

Пад такім «цярністым» назовам фігуруе новая беларуская опэра маладога кампазытара Ю. Семянякі на лібрэта паэты А. Бачылы. Сюжэт опэры найбольш сучасны, з жыцьця савецкага маладзёжнага сяньня, з высокімі праблемамі камуністычнай маралі й этыкі. Адным словам матарыялчык на ўсе 100, а для опэрнага тэатру навет і на 200 працэнтаў. Даўно ўжо беларуская опэра ганяецца за такою салодкаю ежаю, даўно ўжо цярпіць адну няўдачу за другою. Як казаў той крытык: «камбайн ня лезе ў опэру».

Ну, можа тая «калючая ружа» неяк прыстасуецца. Звычайна што новаму твору ды яшчэ такому, што дэкляраваўся да выпуску ў дні 43-яй гадавіны кастрычніка, была адведзеная ўся ўвага опэрнага тэатру БССР, вызначаныя лепшыя кіраўнікі й выканальнікі. Такая палітычная стаўка ў савецкай гульні ў мастацтва нам ужо дастаткова ведамая. Толькі вось лёгікі тут мала. Калі-б мы захацелі пазнаёміцца з творчасьцяй маладога кампазытара Семянякі, дык водгукі друку тут былі вельмі супрацьлежныя. Ёсьць, зразумела, і славахвальныя, а ёсьць і такія, якія проста й нядвузначна кажуць, што ў аўтара «адсутнічае свая ўласная мэлёдычная мова», што малады кампазытар «часта паўтарае самога сябе, пераносячы адзін і той-жа мэлёдычны вобраз з аднаго твору ў другі» («Літаратура і Мастацтва»).

Опэра для Семянякі зусім яшчэ неапанаваны творчы жанр, першая проба пяра. Ці варты тады гэты экспэрымэнт, які адразу-ж, найкарацейшы час (бо трэба гнаць у тэрмін сьвята) мусіць стацца **ўзорам** сучаснай беларускай опэрнай творчасьці? Чым аргумэнтуецца надзея на посьпех такога спэктаклю? Хіба толькі палітычнай мэтаю, каб зрабіць сьвяточны «бум». Але якімі нядоўгавечнымі былі ўжо такія «бумы». Дзе цяпер тыя опэры, аб якіх крычалі ў кастрычніцкія дні? Дзе «Міхась Падгорны» Цікоцкага, дзе вайна 1812 году Багатырова, дзе апошняя опэра Туранкова аб узьяднаньні Беларусі? Усе яны ляжаць у архіўным пыле — бязумоўныя, забытыя. У справаздачах яны сьветкі правалаў савецкай творчасьці, а не яе дасягненьняў.

Старэйшае пакаленьне творцаў ужо баіцца брацца за савецкую, тым больш сучасную тэму, яны ведаюць якая мука для творчасьці, ды й ня шмат хто з моладзі адважваецца парушыць сьвятасьць мастацтва і йсьці на кампраміс із сваім сумленьнем.

Мы ня ведаем вартасьці новай опэры «Калючая ружа», але ў нас шмат дадзеных за тое, што і яна будзе толькі чарговым прапагандовым пустым «бумам». Цікава, што ня гледзячы на ўсялякія націсканьні й штурханьні, тэатр мусіў адлажыць пастаноўку гэтае опэры зь дзён кастрычніцкіх сьвятаў да далейшага часу. Само сабой такое парушэньне дэклярацыі й абяцанак у сьвяточныя дні паводля савецкай рэчаіснасьці робіцца сур'ёзным здарэньнем. За аб'явою опэрнага тэатру, што 7-га й 8-га лістапада на ягонай сцэне ідуць канцэрты-балі, хаваецца небясьпека. Ружа запраўды выглядае калючай. На нашую думку, назоў «Калючая ружа» наагул сымбалічны для дзейнасьці опэрнага тэатру БССР. Сам дырэктар тэатру Лютаровіч (былы намесьнік міністра культуры) прызнаваецца: «Мы па сутнасьці не паставілі ніводнага твору на актуальныя тэмы!» Не паставіў тэатр нічога вартаснага і наагул на нацыянальна беларускую тэматыку, не аднавіў навет таго, што было ў рэпэртуары раней, прыкладам «Кветкі шчасьця».

Із сцэны беларускага тэатру навет і сама беларуская мова амаль што зьнікла, бо ўсе небеларускія опэры выконваюцца ў **расейскай мове**. Губляецца ўсякая нацыянальная вартасьць тэатру. Лютаровіч хваліцца, што новы сэзон тэатр адчыніў пастаноўкай опэры «Пікавая дама» Чайкоўскага, але гэтая пахвальба для нацыянальнай рэспублікі гучыць, як парадокс і насьмешка. І няма нічога дзіўнага, што беларускае насельніцтва таксама робіцца непаслухмянаю авечкаю: яно ня хоча йсьці ў тэатр на тую «Калючую ружу». Дырэктар мусіць сказаць: «а гледачоў часта ня бывае!» І касы працуюць і ўпаўнаважаныя па распаўсюджваньню, і мясцкомы і парткомы агітуюць, але вось гледача няма! Калючая ружа пануе і на сцэне, і ў залі. Такая ёсьць сымболіка.

**М. Куліковіч**

# Мікіту ўводзяць у літаратуру

Культ партыі. Гэтыя два словы з гранічнай дакладнасьцяй вызначаюць галоўную, нязыходную адзнаку афіцыйнае савецкае рачаіснасьці. Усё мае служыць узьвялічэньню партыі. А тое, што магло-б парушыць дагматычную веліч, прынізіць, выклікаць нязгоду — нязьменна асуджаецца. Непарушнасьць культу партыі пільна ахоўваюць, каб трымаць грамадзтва на лініі муштраванай хады й сьляпога послуху — адназгоднасьць зьнеасобленае аднастайнасьці.

У гэткай атмасфэры ствараецца й культ партыйнага правадыра. Пэрсанаж з прывілеямі асаблівымі ў кажным сэньсе. Перад ім — найглыбейшыя паклоны й найбольшае халуйства пад выглядам народнае пашаны. Пры жыцьці ўжо майструюць помнікі ягонай вялікасьці. Кажны ягоны рух мае быць адзначаны як праява нязвычайнага, асабіста бескарыснага.

Дарма што ў сусьцігах да ўлады й славы могуць апынуцца ў прыніжаных яшчэ ўчора багоўленыя. Гэткі лёс зачапіў набальзамаванага Сталіна. Але тое прыніжаньне ня было, не магло быць адмаўленьнем наагул культу партыйнага павадыра. Быў адно часовы тактычны ход. У няпэўны момант трэ было кінуць нейкую палёгку падысподнаму жаданьню ўярэмленага народу. А побач дзеяў і асабісты эгаізм: чым я горшы за яго.

Нябожчык не даваў спакою жывому. Гісторыя мусіла паўтарыцца. Яшчэ ўчора адмаўлянае пачало ўваходзіць у сваю даўнейшую моц. На зьмену прыніжанага валадара ішло ўзьвялічаньне асобы ягонага заступніка. Імя ягонае пры кажнай нагодзе пачалі асобна вылучаць. Ён ужо абавязкава мудра радзіць у кажнай справе — ад вырошчваньня кукурузы аж да напісаньня мастацкіх твораў і навуковых працаў. У газэтах пішуць, як «з бацькоўскіх рук Мікіты Сяргеявіча простая дзяўчына атрымала вышэйшую ўзнагароду». Яму «дзякуюць за клопаты аб народзе», прыракаючы «працаваць яшчэ лепш». Зьяўляюцца ўжо й тэлеграмы «пад бурныя апладысмэнты».

Аджа заставалася яшчэ непераступнай адна грань. Створаная веліч новага правадыра пакуль-што фігуравала-пахаджала ў розных мітынговых прамовах, у газэтных рэпартажах і ў прапагандовых артыкулах. Але розгалас з дня на дзень большаў. Ад ягонага напіраньня мусілі нарэшце расчыніцца й дзьверы «сацыялістычнага рэалізму», каб рэпартажна-мітынговы пэрсанаж стаўся пэрсанажам літаратурным і ў вянку славы зьявіліся краскі паэтычныя.

Чакалася толькі на зручны выпадак. Ім зьявілася сэсія Генэральнае Асамблеі Задзіночаных Нацыяў у Нью Ёрку. Каманду падалі ўжо загадзя. Падарож у Амэрыку на вадаплаве «Балтыка» абвесьцілі гістарычным рэйсам зь місіяй міру. Ад гэтага рэйсу й пачалі ўводзіць галоўнага пасажыра ў бэсэсэраўскую літаратуру.

Побач з рознымі лістамі й рэзалюцыямі, якія пачыналіся «Дарагі наш», зьявіліся ў друку й першыя вершы, прысьвечаныя «дарагому». У вершах яго вялічаюць у поўнай згодзе з выбраным галоўным шляхам да славы» — «змагар за мір, наш пасланец», «вяшчун свабоды». А ягоныя заклікі ня йнакш, як «запаветы» для ўсіх народаў. Гэтак прыдзелены пэрсанаж выводзяць з хатняга ўжытку на прасторы вонкавыя — у сусьветнае правадырства.

Ужо ад самага пачатку ўсе гэтыя вершы нагадваюць сваіх даўнейшых папярэднікаў — нязьлічоныя прысьвяты Сталіну. Той-жа грым, глянцаваньне прапанаванага пэрсанажа пад сардэчнага абаронцу прыгнечаных, носьбіта народных жаданьняў і спадзяваньняў. Аднастайная рыторыка, даўная сьпятрэлая лексыка. Ні новых асацыяцыяў, ні жывога слова, ні адзнакаў аўтарскай індывідуальнасьці. Як і мае быць пры штампаваньні загаданае прапаганды, зь якой паэтычнае натхненьне ніколі не сябруе.

Непераборлівыя паўторы навет у дэталях. Калісьці ідылічны Сталін бясконца курыў «люльку міру» ў вершах і на фотаздымках. Цяпер ёю ўпрыгожваюць новага вершаванага правадыра. Таксама запазычаны й пацяшальны дымок, якім пыхкае адабраная ад Сталіна люлька. «А дымок той сіняваты, а дымок вясёлы» — прыгнала ў верш нейкім ветрам з танцавальнае млосьці — «дымок от папироски, дымок голубоватый.» Разам з дымным водырам, што разыходзіцца ад «пасланца міру», паэта прапануе чытачу й такую «паэтычную знаходку», выхапленую з вулічнага жаргону, — «біце злыдня ў зубы». Ведама, мільянэра крыважэрнага, а не правадыра сардэчнага.

Можна з пэўнасьцяй сьцьвярджаць, што за першымі вершамі нахлыне цэлая чарада. Нездарма да розных дэлегацыяў прыдзяляюць пісьменьнікаў. Яны, кажучы савецкім патасам, павінны будуць «узяць новы рубеж». Аджа чаканы наплыў хваласьпеву, як і папярэдні, пакіне па сабе адно слату. Яе будуць з прыкрасьцяй мінаць, як дакор сумленьню. Пра неспакой пагвалчанага сумленьня нядаўна гаварыў адзін паэта, прыгадаўшы свой удзел у стварэньні культу Сталіна.

Было-б няпраўдай цьвердзіць, што ўводжаны ў літаратуру пэрсанаж не надаецца для мастацкага ўвасабленьня. Напаткала няўдача, бо кірунак увасабленьня зусім ня той. З гэтае прычыны наагул не шанцуе ў літаратуры ўсялякім бальшавіцкім правадыром.

Прыкладам, слаўленая міратворнасьць. Яна вунь якая своеасаблівая: дэмагогія, пацяшальнасьць для неспрактыкаваных, крута замешаная падбойнасьцяй, пагрозамі закідаць нязгодных ракетамі, якія, як выхвалялася з трыбуны Задзіночаных Нацыяў, пад наглядам «друга-чалавека» выробляюць нібы з каўбаснай канвэярнай хуткасьцяй.

Або чым ня дэталь для мастацкага твору таксама своеасаблівае сардэчнасьці й культуры «народнага дэлегата», калі ён, каб выказаць нязгоду з прамоўцам на высокім сходзе, лупіць па стале кулакамі, а ў прыдачу й зьдзёртым з нагі чаравікам, які ў міжчасе для спрытнейшага выкарыстаньня ляжыць на стале. Гэтыя рухі правадыра навет здабылі пэўную папулярнасьць, анэкдатычны й разам практычны ўжытак. Нядаўна іх выкарыстала на рэкляму трываласьці сваіх будаўляных вырабаў адна нарвэская фірма. Ведамая постаць лупіць чаравікамі па рамах на дзьверы й вокны. А рамы не паддаюцца, на іх ніякага сьледу ад таго лупцаваньня. Спажыўца пераконвалі, што прадукцыя першае клясы. У газэтах паведамлялася й пра такі выпадак. Нейкаму тэмпэрамантнаму чалавеку надакучыла сядзець у судовай пачакальні. Каб прысьпешыць суд, ён разуўся й пачаў барабаніць чаравікамі ў дзьверы.

Вартае ўвагі й тое, што гістарычная «Балтыка» ў зваротны рэйс адплыла бяз узвышанай палітыкі, наладаваная па берагі капіталістычнымі вырабамі, на якія ніяк не здабудзецца заможны сацыялізм. Адно сьмяхоцьце: пакуль сам гаспадар у прамове выхваляўся раскошаю жыцьця пад саветамі — ягоная абслуга завіхалася на закупах. Куплялі featureрознае: найлонавыя панчохі, жаночыя гарсэты, скуру, сувоі матар'ялаў, найноўшыя аўта.

Няхай усё гэта не літаратурныя факты. Але яны маглі-б стацца матар'ялам для мастацкага твору. Хадульны панэгірык мусіў-бы аддаць прызначанае месца сатыры. Але-ж гэткі ласунак не для падсавецкага пісьменьніка. Ён мае адну, мусовую дзель — дапамагаць партыі.

**Я. Густовіч**



Акоў паломаных жандар,
Сьліўнем зарыўшыся ў нары,
Сядзіць расейскі чынадрал,
«Слуга оцечаству, цару».

Ён сьніць былую моц і шыр:
Цары, царыцы, цэрквы, трон,
Пагромы, катаргі, Сібір...
О, Русь! Прымі раба паклон!

Табе такой служыць па гроб
Ня кіну я, і «расьцярзаць»
Ня дам дзяржаўнасьці «оплот»,
Цябе, «единую», о, маць!

Здарма-ж двуглавы твой арол
Празь векі ў кіпцюрох трымаў
Мільёны ўбогіх хат і сёл,
Рабоў мільёны?.. Нездарма!

У твой ланцуг былі, о, Русь,
Уплецены з усіх бакоў
Ўкраіна, Польшча, Беларусь
І сотні іншых «языкоў».

Цяпер, што бачу я крутом?
Пасад маўклівы збуран скрозь...
Рэспублікі!? Ды зь «языком»
Зь іх лезе кожная ўсур'ёз.

А ты, о рускі мой «язык»!
Мой «общарускі», што з табой?
Табе слухмян быў мал, вялік,
Быў славен ты сваёй кляцьбой.

Табой сам самадзержац цар
Пісаў ланцужны свой закон,
Што маці-Рось есі жандар
Усёй Эўропы!..

І свой сон

Сьніць далей гэты царадвор,
Калі надыйдзе яму дзень,
Ізноў пад лёзгат царскіх шпор
Свой распасьцерці чорны цень.

Ён, гэты ськінуты сатрап,
Ня знае, што ў свабодзе жыць;
Яму дай вісельню, дый каб
На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.

Не па нутру, як сьмерць, яму,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сьцюжную зіму
У школку пазнаваць жыцьцё.

Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,
Напоўадзеты вёскі сын,
У роднай мове ўчыцца змог?..
О, стыдна, рускі «гражданін»!

Язык твой царскі ён табе
Ня выража, спакойны будзь!
Цябе тваім-жа у кляцьбе
Ён не забудзе памянуць.

Былых ня выклічаш вякоў
І ты, Масквы каронная гразь,
Парваных ня скуеш акоў,
Зь якой брахнёю ня вылазь!

Як гэты верш Янкі Купалы падходзіць да сучаснасьці, калі ўсё большага разгулу набірае расейская рэакцыя, сілай насаджваючы свой «царскі язык», сілай зьнішчаючы найменшыя праявы нерасейскасьці ў нерасейскіх народаў, сілай заганяючы іх у мінуўшчыну «ланцужнай» Расеі. Чаму-ж для характарыстыкі Янкі Купалы й сучаснай савецкай рэчаіснасьці Р. Шлапак ня прыбег да прыведзенага верша Янкі Купалы? «Хвальшаваньне» гісторыі!? Вось чаму гэты верш зьяўляецца пад забаронай у Савецкім Саюзе, як там таксама мала хто знае пра бальшавіцка-маскоўскае забойства Янкі Купалы.

Зьвернем увагу яшчэ й на другі факт сьведамага хвальшаваньня гісторыі беларускага народу й бэсэсэраўскай рэчаіснасьці. Гаворачы пра страты ў БССР падчас другой сьветавай вайны, Р. Шлапак пералічае, колькі было спалена гарадоў і вёсак, колькі было разбурана заводаў і калгасаў, колькі загінула насельніцтва рэспублікі. Гэтыя страты нязьлічоныя, вайна многа зла прынесла беларускаму народу. Але гаворачы пра страты ў насельніцтве, Шлапак сьведама падганяе іх да вынікаў барбарскага вынішчэньня насельніцтва БССР пасьля гэтае вайны, што адлюстравалася наглядна ў апошнім савецкім перапісе. Як ведама, згодна дадзеных гэтага перапісу, насельніцтва БССР налічваецца ў 8.060.000 чалавек. Вось Р. Шлапак і гаворыць, што за «гады акупацыі Немцы зьнішчылі ў Беларусі 2,2 мільёна чалавек, бадай што чэцьверць усяго насельніцтва рэспублікі». Значыцца, да вайны ў рэспубліцы мелася налічвацца 8.800.000 чалавек.

Але-ж ведама, што ў 1940 годзе ў БССР налічвалася 10.500.000 чалавек. Гэты лік падавалі савецкія крыніцы, хоць-бы «Большая Советская Энциклопедия» другога выданьня. Раскрыем разгляданы зборнік некалькімі старонкамі назад, і ў артыкуле В. Кулікава «Супраць буржуазнага хвальшаваньня савецкага партызанскага руху» на бачынцы 248 канстатуем, што «зь 10 мільёнаў чалавек, якія насялялі рэспубліку (БССР) да вайны, нямецкія фашыстоўскія захопнікі зьнішчылі й вывезьлі ў Нямеччыну 2,5 мільёна чалавек». Апошняе падцьвердзіў і К. Мазураў у сваім выступленьні на Генэральнай асамблеі Задзіночаных Нацыяў, зазначаючы, што ў часе другой сьветавай вайны Беларусь страціла больш 2 мільёнаў чалавек ці больш 20% свайго даваеннага насельніцтва, што дае зразумець, што ў 1940 годзе ў БССР было больш 10 мільёнаў чалавек.

Каб-жа схаваць вялікую розьніцу ці пасьляваенныя страты ў насельніцтве БСС, яшчэ ў 1956-1957 гадох савецкая статыстыка прыбягае да хвальшывак, падаючы ў статыстычных зборніках «Народное хозяйство СССР» лік даваеннага насельніцтва рэспублікі толькі 9 200 000. Аднак і гэтага хвальшаваньня было замала, каб збалянсаваць цяперашні стан насельніцтва БССР, і таму разам з вынікамі перапісу пачатку 1959 году зазначаецца, што па перапісу 1939 году ў рэспубліцы налічвалася толькі 8 910 000 чалавек насельніцтва.

Як бачым, да гэтага крывадушша прыбягае таксама й Р. Шлапак, каб схаваць некалькі мільёнаў Беларусаў, зьнішчаных ці выгнаных пасьля другой сьветавай вайны. Дапусьцім, што пасьля вайны заставалася ці мелася застацца каля 8 300 000 чалавек насельніцтва ў рэспубліцы. Між 1944 і 1959 гадамі прамінула 15 гадоў, а насельніцтва рэспублікі нічуць не пабольшылася, а навет зьменшылася на 240 000 чалавек. Значыцца, апошні лік плюс больш 2 мільёнаў чалавек натуральнага прыросту дзецьмі зьніклі за гэтыя гады. Дзе-ж гэта? Ведама — ў лягерах Сібіру й так званых «навастройках камунізму».

Гэта найлепшы прыклад, які павінен сьветчыць пра разгул клясычнага савецка-расейскага каляніялізму.

**П. Залужны**

# Трыццаць гадоў на службе роднае культуры

Дня 24-га сьнежня 1960 году споўнілася пяцідзесяцігодзьдзе з дня нараджэньня й трыццацігодзьдзе літаратурнай дзейнасьці прафэсара Палітэхнічнага Інстытуту ў штаце Нью Ёрк і Мідлбуры Каледжу ў Вэрмоньце — д-ра Уладзімера Сядуры-Глыбіннага. Ягоныя працы з галіны славянаведы зрабілі ягонае імя шырокаведамым ня толькі сярод Амэрыканцаў, але й паза межамі Амэрыкі. Дзеля таго, што сярод ягоных працаў беларуская тэма займае значнае месца, а таксама дзеля ягонае вядомасьці ў беларускіх колах, як літаратурнага крытыка й пісьменьніка, нашая газэта лічыць неабходным адзначыць гэты юбілей на сваіх бачынах.

Народжаны ў беларускай сталіцы, горадзе Менску, 24-га сьнежня 1910 году, Ул. Глыбінны па сканчэньні 15-ай менскай сямігодкі паступіў у 1927 годзе ў Менскі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Тады-ж пачаў зьмяшчаць вершы ў студэнцкім літаратурна-мастацкім часапісе «Крыніца» й неўзабаве далучыўся да літаратурнага аб'еднаньня «Маладняк». У 1930 годзе паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне Пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту і ўвайшоў у новае беларускае пісьменьніцкае аб'еднаньне БелАПП. У студзені 1933 году быў арыштаваны разам з маладымі пісьменьнікамі Лукашом Калюгай, Максімам Лужанінам, Сяргеем Астрэйкам, Фэліксам Купцэвічам, Юлі Таўбінам, Зьмітраком Астапенкам і інш., як нацыянал-дэмакрат і быў высланы на тры гады ў сібірскія, пазьней байкала-амурскія лягеры.

Пасьля адбыцьця тэрміну зьняволеньня вучыўся ў Маскоўскім і закончыў у 1939 г. Ленінградзкі ўнівэрсытэт. У наступным годзе ўдалося асесьці ў родным Менску. У 1941 г. абараніў доктарскую дысэртацыю й атрымаў ступень доктара філялягічных навук. Пачаў працаваць прафэсарам філялёгіі пры Пэдагагічным Інстытуце і старшым навуковым працаўніком пры навукова-дасьледніцкім Інстытуце Пэдагогікі Наркомасьветы БССР. Але ў першы-ж дзень вайны быў арыштаваны й кінуты ў Менскі астрог. На трэйці дзень уцёк з этапу па дарозе зь Менску ў Чэрвень, вярнуўся ў спалены Менск і распачаў журналістычна-літаратурную дзейнасьць. Выдаваў літаратурна-мастацкі ілюстраваны часапіс «Новы Шлях». У артыкулах на бачынах «Новага Шляху» й «Беларускай Газэты» ён з глыбіні вякоў выцягае на сьвятло гэткія слаўныя падзеі й чыны, як дзейнасьць выдатнага дзяржаўнага дзеяча, канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі, ужываньне беларускай мовы, як дзяржаўнай, вызвольнае змаганьне беларускага народу ў XVII—XVIII стг. Гістарычнаму й этнаграфічнаму абгрунтаваньню належнасьці ўсходніх земляў да Беларусі Глыбінны прысьвяціў навукагістарычны нарыс «Смаленшчына — адвечна беларуская зямля». Нарыс «Наваградак учора й сяньня» прысьвечаны гісторыі ўтварэньня задзіночанага беларускага гаспадарства князем Міндоўгам. Беларускаму народнаму правадыру XIX стг. Кастусю Каліноўскаму ім прысьвячаецца нарыс «Змагар за волю народу». Апрача гэтага піша й друкуе нарысы зь гісторыі беларускае царквы, школьніцтва й асьветы на Беларусі, піша артыкулы аб беларускіх народных абрадах.

Пытаньням нашае культурнае спадчыны ўжо тады Глыбінны аддаваў шмат увагі. Ідэямі культурнага адраджэньня прасякнутыя артыкулы пра беларускіх кампазытараў А. Туранкова, Ул. Тэраўскага, пра асаблівасьці беларускае народнае музыкі, беларускія народныя інструмэнты й танцы ды шматлікія артыкулы пра беларускае мастацтва.



Глыбінны яшчэ ў 1943 г. склаў кнігу «Беларускае мастацтва», якая ў 1943 г. ужо друкавалася ў Менску, але ваенныя падзеі й эвакуацыя пашкодзілі ейнаму выхаду. Дзеля тых-жа падзеяў ваеннага часу не пабачыла сьвету й вялікая кніга Глыбіннага «Жыве Беларус!» і таксама ўжо набраная кніга «Беларускі тэатр», што абыймала гісторыю беларускага тэатру ад старажытных часоў да апошняе вайны.

У часе вайны перагружанасьць журналістычнай працай адцягвала ўвагу Глыбіннага ад чыста мастацкай творчасьці. Толькі часам нахіл да яе выяўляўся ў мастацкіх нарысах («Над Вяльлёю» й інш.). Толькі ў Нямеччыне ён аднаўляе творчую дзейнасьць у галіне мастацкае прозы, вынікам чаго зьяўляецца раман «Вялікія дарогі», пачатак якога друкаваўся на бачынах ньюёрскага навукова-літаратурнага часапісу «Веда» ў 1952 г. ды асобныя разьдзелы якога зьявіліся былі ў газэце «Бацькаўшчына» ў 1955 г.

Глыбінным прыгатаваны новы зборнік апавяданьняў «На берагох да сонца», першая палова якога была надрукаваная ў газэце «Бацькаўшчына» ад 21 лютага да 5 чэрвеня 1960 г.

Пасьля пераезду ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі ў кастрычніку 1951 году Уладзімер Сядура актыўна спрычыніўся да рэпрэзэнтацыі беларускае культуры й навукі на амэрыканскім кантынэньце. Ён тут вядзе навуковую працу пры Амэрыканскай Дасьледавальнай Праграме па вывучэньню Савецкага Саюзу, апрача гэтага сярод амэрыканскіх навукоўцаў і студэнтаў выступае з дакладамі на беларускія тэмы. Гэтак у дакладзе студэнтам Калюмбійскага Ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку ў красавіку 1953 г. Сядура даў шырокі абраз вызвольнага змаганьня беларускага народу на працягу ўсяе найноўшае гісторыі Беларусі. У тым-жа 1953 г. ён выступіў з дакладам «Беларуская культура й таталітарызм» на Першай амэрыканскай навуковай канфэрэнцыі мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР. Удзельнічаў др. Сядура і ў другой амэрыканскай канфэрэнцыі мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР у 1954 г., на якой прачытаў судаклад аб лінгвістычнай палітыцы ў БССР.

Вялікі посьпех выпаў на долю выданай у Нью-Ёрку ў 1955 г. кнігі Сядуры ў ангельскай мове «The Byelorussian Theater and Drama» («Беларускі тэатр і драма»), якая была пазытыўна ацэненая Амэрыканскімі й канадыйскімі вучонымі й наагул выклікала шмат дадатніх водклікаў у друку. Выхад гэтае кнігі не магла абыйсьці маўчаньнем навет Масква. У артыкуле А. Бруханскага, зьмешчаным у часапісе Інстытуту Расейскай Літаратуры Акадэміі Навук СССР «Руская Літаратура» адводзіцца кнізе др. Сядуры шмат месца, дзе яна, рэч ясная, асуджаецца, як «прасякнутая духам буржуазнага нацыяналізму». Наступнай цэннай навуковай працай Глыбіннага-Сядуры з галіны беларусаведы зьяўляецца выдадзеная ў 1958 г. мюнхэнскім Інстытутам Вывучэньня СССР кніга п. н. «Доля беларускае культуры пад Саветамі», якая ў 1959 г. была тым-жа Інстытутам выдадзеная ў нямецкай мове пад зьмененым назовам «Vierzig Jahre weissruthenischer Kultur unter der Sowjets».

Немалаважнае значаньне маюць працы др. Сядуры і ў галіне беларускага расеязнаўства. Ягоная праца «Достоевсковедение в СССР» у выданьні Інстытуту Вывучэньня СССР у 1955 г. выклікала таксама вельмі шырокі й станоўкі водгук у друку. Гэтая кніга ў 1957 г. была выдадзеная і ў ангельскай мове ў выданьні Выдавецтва Калюмбійскага Ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку, якая потым была ўлучаная ў лік кніжак-падручнікаў ўва ўсіх унівэрсытэтах Амэрыкі. У 1958 г. гэтая кніга была перавыдадзеная і ў Ангельшчыне, дзе таксама была яна ўведзеная ў якасьці падручніка для студэнтаў і выкладчыкаў славянскіх літаратураў.

Гэтыя посьпехі й дасягненьні беларускага навукоўца становяць сабою новы здабытак ня толькі ў пляне дасягненьняў у галіне вывучэньня нашае роднае культуры, але й у новай, маладой яшчэ ў вольным сьвеце, галіне — гэтак званай беларускай расеяведы.

**Кастусь Старажоўскі**

# „Вянок" Максіма Багдановіча

Глянь, як зорка у цемні ляціць,  
Ўсіх чаруючы сьветлам сваім;  
Быццам зьмей залаты зігаціць  
І стухае у небе глухім.

Але ўспомніць яшчэ зорку сьвет,  
Бо у сэрцах гарыць яе сьлед.  
Так свабодна, так ярка пражыць —  
Лепшай долі няма на зямлі:

Ўсё вакол на мамэнт асьвяціць  
І пагаснуць у цёмнай імглі.  
Ўсё зьнікае, праходзіць, як дым,  
Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым.

Гэты верш быў напісаны Максімам Багдановічам на сьмерць Сяргея Палуяна ў 1910 годзе. Сяньня ён гучыць звонкім моттам да цэлага жыцьця й самога ейнага аўтара, чый «сьветлы сьлед будзе вечна жывым».

Сёлета Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва разам з Выдавецтвам «Бацькаўшчына» аднавілі Багдановічаў «сьветлы сьлед» акадэмічным выданьнем «Вянка паэтычнае спадчыны» пісьменьніка, на якое ўжо даўно чакалася ды якое становіць сабой адно з найлепшых дасягненьняў беларускага выдавецтва на эміграцыі. Кніга (294 балонкі) выйшла пад рэдакцыяй Ант. Адамовіча й Ст. Станкевіча.

«Вянок» адчыняецца біяграфічна-крытычным нарысам пра Багдановіча, напісаным д-рам Ст. Станкевічам, і бібліяграфічна-крытычным нарысам («Наш Багдановіч») праф. Ант. Адамовіча. Кніга мае ілюстрацыі, тлумачэньні-заўвагі да шмат якіх вершаў, а ў канцы — альфабэтычны й парадкавы зьмест твораў. Вельмі добра, што ўкладальнікі падатавалі творы ды захавалі храналягічнасьць Багдановічавае творчасьці (аддзяліўшы толькі прозу ад паэзіі). Гэта (як на акадэмічнае выданьне) выгадна адрозьнівае «Вянок», прыкладам, ад Купалавае «Спадчыны». Густоўна выданьне аформленае таксама й з графічнага боку.

Кніга выйшла ў двух розных пераплётах: мяккім кардонавым (цана: 3 даляры) і вельмі прыгожым цьвярдым палатняным (у розных калёрах) з залатымі літарамі й залатым малюнкам вянка (вокладку праектаваў мастак Міхась Наўмовіч).

*

Усе трох, застаючыся глыбака нацыянальнымі і кажны пасвойму арыгінальнымі паэтамі, Купала найперш — выразьнік народнае душы, Колас — чулы апісальнік бацькаўшчыны, Багдановіч — мастак-філёзаф.

Своеасаблівасьць Багдановічавае душы, у якой навакольныя зьявы жыцьця адлюстроўваліся ў пэрспэктыве ўдумлівых абагульненьняў, тлумачыцца, найбольш бадай, сьведамасьцяй кволасьці свайго фізычнага здароўя.

Даўно ўжо целам я хварэю,  
І хвор душой, —  
І толькі на цябе надзея,  
Край родны мой!

«Хвароба душы», пра якую гаворыць паэта, які большую частку свайго жыцьця правёў на чужыне, — гэта знаёмая нам нуда-туга па родным краі.

У родным Краі ёсьць крыніца  
Жывой вады.  
Там толькі я змагу пазбыцца  
Свае нуды.

Матывы суму па бацькаўшчыне, імкненнасьць думак да яе ды ідэяльнасьць выпешчанага ў ростані вобразу пакутнага народу найбольш зразумелыя й найбольш блізкія тым, хто таксама разлучаны з «крыніцай жывой вады». Аднак, ня туга й смутак вызначаюць Багдановічавую творчасьць. Характарызуе яе якраз тое, што ў ростані найбольш патрэбнае: бадзёрасьць, напорыстасьць, нязломная вернасьць.

Беларусь, твой народ дачакаецца  
Залацістага, яснага дня . . .  
. . . . . . . . .  
Рушымся, брацьце, хутчэй  
Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах . . .  
. . . . . . . . .  
Беце ў сэрцы іх, беце мячамі,  
Не давайце чужынцамі быць! - -

І разам з усім гэтым ёсьць у Багдановіча штосьці іншае, так патрэбнае чалавеку ў ягонай тузе па бацькаўшчыне, у ягоным цярпеньні й змаганьні за яе — гэта той аптымістычны роздум, мэдытацыя, адчыненасьць душы, з чым толькі можна адчуць глыбокую глыбінь й радасьць жыцьця, ягоную прыгажосьць, ягонае багацьце. Багдановіч умеў пранікліва канцэнтравацца на дробных нязначных дэталях будзёншчыны і сілай мастацкага ўспрыйма даваў адчуць глыбокі сэнс і значэннасьць, што захаваныя ў шэрым навакольлі, паўзь якога іншы ў сваім вечным сьпеху праходзіць няўважліва, мэханічна. Паэта сілай мастацкага вобразу й вайстрынёй раптоўнае думкі валодае здольнасьцяй вырываць нас із гразкага патоку манатоннасьці . . . і задумвацца. І гэтага роздуму — над усім тым, чым жыў паэта, ці ня трэба якраз найбольш нам, каб не парваліся духовыя ніці з краем, якому яшчэ так нядаўна кажны з нас складаў прысягу ў сэрцы сваім. Вернасьць гэтую перахаваць будзе куды лягчэй зь вянком Багдановічавых няўмірушчых твораў-васількоў.

**Я. Запруднік**

У мяне сябра пытаўся нядаўна, які сьвяточны падарунак было-б зрабіць найлепш ягонаму беларускаму знаёмаму. Я адказаў яму: «Няма цьвяточка над васілёчка» Няма вартасьнейшага падарунку над беларускую кніжку. Казаў мне таксама нядаўна сп. Б. Даніловіч зь Нью-Брансьвіку, што ў яго людзі набылі ўжо сто зь лішнім Багдановічавых «Вянкоў».

**Я. З.**

# Творы Алеся Гаруна

## Матчын дар

**(Працяг)**

### ЗАВІРУХА

Завіруха скача ноччы  
Патарочай, плача, вые;  
Пухавыя сыпе ў вочы  
Сьнегавінкі мне, рагоча.  
Йду навобмац; ледзь жывы я,  
Някывыя суну ногі  
Без дарогі. Цела ные,  
Калянее; верставы я  
Праміную слуп убогі,  
Траярогі крыж зьбуцьвелы,  
Пасівелы, цёмны, строгі.  
Не чакаю дапамогі . . .  
Прыступае нехта белы,  
Асьмялелы. Во ўсьцігае,  
Акаляе, скамянелы,  
Пасінелы, — абнімае.  
Завіруха —  
Рагатуха сыпе сьнегу  
І ў прабегу шэпча ў вуха:  
«Заначуеш — не пачуеш:  
Я завею, я угрэю,  
Зараз ляжаш, дзякуй скажаш,  
Мне ты скажаш». Завіруха —  
Рагатуха шэпча ў вуха.  
Ажно чую: раптам злая  
Улягае, уціхае  
Завіруха. Замірае.  
Праясьняе ў полі. Нікне,  
Ані зыкне вецер-сватка.  
Бачу — хатка.  
Як тры зоркі, тры вакенцы  
Пры гасьцінцы. Верацёнцы  
Дыму ў неба ўюцца, пнуцца.  
Хатка, вокны, дым — сьмяюцца,  
Клічуць, вабяць, сустракаюць,  
Прывячаюць, запрашаюць.  
Голас чую родных, мілых.  
Змацаваўшыся на сілах,  
Крыкнуць рады: «Зьгінь ты, гора!»  
А яно ў вадказ гавора:  
— «Над табою  
Сьнег гурбою».

### ДУМЫ Ў ЧУЖЫНЕ

Гора мне цяжкае, гора бясшчаснаму!  
Сэрца ўсё жаліцца, плача, баліць.  
Хочацца к сонейку цёпламу, яснаму:  
Хоць-бы пабачыць! Ўсю цяжкасьць  
зваліць!

Доля мая, што мяне узбагаціла,  
Думак, жаданьняў і сэрца дала,  
Недзе гаман з маім шчасьцем утраціла, —  
З горам падняла і мне падала

Што там наперадзе, што там нязнанае,  
Што там із зьдзекам мяне сьцеражэ?  
Скрытна-варожае, з страхам чаканае,  
Можа і блізка на нейкай мяжэ.

Толькі ня сьмерць, — не аб ёй неспакоюся.  
Сьмерць — гэта што! Гэта дар для усіх,  
Прыйдзе той час, і я зь ёй заспакоюся,  
Збыўшыся боляў і думак сваіх.

Іншае гора душу абцяжарыла, —  
Камень на сэрцы цяжэйшы ляжыць, —  
Дні майго росквіту ймглою абдарыла,  
Ў жыцьці штодзённа за мною бяжыць.

Доля мая, — гэта доля гаротная,  
Сэрца дала мне, навучыла любіць  
Дый прысудзіла яна-ж, адваротная,  
Век у сіроцтве, ў выгнаньні пражыць.

Што мне жыцьцё, хоць-бы сама  
найкраснае?  
— Волі ня маю! Ў няволі жыву.  
Гэтае нуднае быцьце уласнае  
Сьмерцяй страшэннаю з болем заву.

Сокалам вольным і з птушшай  
гульлівасьцяй  
Як-бы, здаецца, адсюль палящеў . . .  
Нельга і думаці, — доля бязь міласьці  
Варту паставіла, вораг абсеў.

---

Беднасьць — ня гора зусім мне,  
бясскарбнаму;  
Я багацей, заможней за другіх,  
І не зайздрошчу багацьцю тых марнаму,  
Досыць зь мяне бедных злыдняў маіх.

Покуль варушацца рукі скарэлыя,  
Праца мне будзе на радасьць, на сьмех.  
Злотам багатыя, сэрцам зьнішчэлыя,  
Трутні ня мецімуць гэткіх уцех.

Што мне багацьце? Бяз грошай, бяз золата  
Быў-бы магнат я, кароль, багатыр  
Там, дзе пад націскам роднага молата  
Жыцьце куецца углыб і ушыр.

Жыцьце куецца, і сонца ўздымаецца,  
Сьветла праменьне ліець з гарыні,  
З доўгага сну дзе народ прачынаецца,  
Побыту шчаснага сьвецяць агні.

Там, дзе цяпер яшчэ сілы нячыстыя  
Жыцьце карэжаць, пасвойму вядуць,  
Дзе страпянулі дубы густалістыя  
І на курганах нямоўчна гудуць, —

Можа і я з сваёй слабаю сілаю  
Там працаваць-бы хоць крышку памог;  
З гэтаю працаю шчыраю, мілаю  
Сьмерці спаткаў-бы спакойна парог.

Можа . . . А можа ня ўбачыць мне гэтага?  
Можа суджона тут век мне пражыць?  
Дні адзіноты, сіроцтва бясьсьветнага  
Грудай каменьня ў душы валачыць.

---

Страшна мне гэта, і ўсё-ж не адзінае  
Так навaліла, гняце ў глыбіне, —  
Горшая мука ўтрапляець, што сынам я  
Быць перастану сваёй старане.

# Без прапагандовых прыкрасаў

Зь немалым перапынкам вяртаемся да тэмы, якую шырока закранула ў сваім лісьце да нас адна з нашых паважаных супрацоўніцаў із сучаснай Польшчы; што гэтым летам наведала Беларусь. Тэма гэтая, як сабе чытачы напэўна прыгадваюць — жыцьцё і ўмовы працы нашага насельніцтва ў падсавецкай Беларусі.

На падставе прыгаданага ліста мы ў галоўнейшых рысах, не дадаючы, фактычна, нічога ад сябе, апісалі ўжо жыцьцё звычайнага гарадзкога насельніцтва й беларускіх калгасьнікаў. Бязумоўна — усяго не апішаш, як не магла нам падаць у лісьце ўсіх сваіх спасьцярогаў і ўражаньняў наша супрацоўніца. Аднак ёсьць яшчэ мамэнты, на якіх варта спыніцца.

Да ўмоваў жыцьця калгасьнікаў варочацца больш ня будзем. Можа варта, аднак, перадаць адну гутарку старога селяніна з аўтаркай прыгаданага ліста. Цытуем бязь зьменаў:

«Дзядзьку К. я ведала з маленства. У гутарках зы мной ён не хаваўся. Аднойчы, неяк, ён з горкім гумарам сказаў: 'Ды мы яшчэ нязгорш жывём. Каму ў калгасах найгорш, дык гэта коням. Ты бачыш, як яны выглядаюць? Інакш яно й быць ня можа. На полі яны нас выручаюць, работы ім хапае, бо цехніка стаіць — няма запчасьцяў. А корм? Калі не палавіну, дык трэйцюю частку аўса пушчае 'на бок' магазынер — і яму жыць трэба. Сена крадзём усе для сваіх кароў — бяз гэтага не абыйдзешся. Калі хто з нас бярэ каня, каб загараць прысядзібны вучастак, дык, пэўна-ж, стараецца падкарміць. Дарэчы, думаеш лёгка ўзяць каня? Трэба за гэта 100 літраў малака даць! За пашу для каровы 100 літраў, за каня 100 літраў... Шкада мне коней, — уздыхнуў дзядзька К., Ня коні, а біткі — ледзьве ногі цягаюць...'»

Можа гэта й дробная, другарадная дэталь. Але, на нашу думку — яна вельмі красамоўная.

Як мы бачылі, жыцьцёвы ўзровень беларускага калгасьніка далёка незайздросны. Здаваласяа-б — горшае ўявіць сабе цяжка. Ёсьць, аднак, і горшае. Гэта палажэньне работнікаў **саўгасаў.** Саўгасаў калгасьнікі баяцца, як агню. Яны ведаюць, што дзяржава зьбіраецца паступова ператварыць усе калгасы ў саўгасы.

Ператварэньне гэтае пачалося. І мэтады гэтага пераводу — гэта ўсё, але не «матарыяльная зацікаўленасьць», аб якой так шмат гаварыў апошнім часам Хрушчоў і ягоныя падпявалы ў Беларусі.

Вось факты, пададзеныя навочным сьведкам — нашай супрацоўніцай: простыя работнікі саўгасаў атрымоўваюць ад 60 да 120 рублёў у месяц. Натурай — нічога. Яны маюць права на 15 сотак (0,15 гэктара) зямлі ў якасьці прысялібнай дзялянкі (Прыгадаем, што калгасьнікі маюць ад 30 да 60 сотак). Навет птушку трымаць забаронена. Каб выжыць — не застаецца нічога, як гнаньне і продаж самагонкі (жыта можна дастаць) ці дадатковая праца ў горадзе. На самагонку, — як піша наша супрацоўніца — старшыні калгасаў глядзяць праз пальцы, бо самі бачаць, што іншага выхаду няма.

Між іншага, найлепшы збыт на самагонку — гэта расейскія работнікі, якія працуюць на цэлым шэрагу нейкіх «строек» уздоўж чыгункі Менск—Маладэчна. Умовы працы гэтых работнікаў выклікаюць зайздрасьць у мясцовага насельніцтва: простыя работнікі атрымліваюць 1000-1500 рулёў у месяц; майстры — да 2500 рублёў. Але затое ёсьць збыт на самагонку...

Цяпер — некалькі фактаў больш агульнага характару. Высновы няхай робяць чытачы самі. Спачатку цікавае здарэньне, ведамае бадай усім у Маладэчаншчыне, і пераказанае нам нашай супрацоўніцай.

Да 1954 году ў мястэчку Краснае быў вельмі дрэнны камандант міліцыі. Ён за кажную дробязь сурова караў злоўленых сялян. І вось аднойчы ў 1954 годзе, у белы дзень, прыйшлі ў міліцыю дзьве ўзброеныя асобы. Яны засталі там каманданта міліцыі. Апрача яго, там прыпадкова знаходзіўся высокі савецкі ахвіцэр з жонкай. Незнаёмыя іх раззброілі (зьнялі ў ахвіцэра пас зь пісталетам) і загадалі легчы на падлогу. Затым яны, за нялюдзкія адносіны да мясцовага насельніцтва, прачыталі каманданту сьмяротны прысуд і на месцы-ж расстралялі. Ахвіцэру й жонцы загадалі не падымацца з падлогі паўгадзіны. Самі бясьследна зьніклі. Людзі расказваюць, што ахвіцэр быў пасьля гэтага здэградаваны й некуды высланы.

Незнаёмыя — гэта былі «людзі зь лесу». Адзін зь іх —слаўны ў тых мясцовасьцях Палівода.

Цяперашні камандант міліцыі — вельмі добры. Калі-што, дык яго папераджаюць: «Глядзі, а то Палівода прыйдзе...»

Бясспрэчна, — піша наша супрацоўніца, — цяпер фізычны тэрор не такі, як раней. Людзі, якім няма чаго траціць — калгасьнікі, работнікі — адважваюцца навет на адкрытую крытыку аж да пагрозаў Палівадам. Але зусім інакш выглядае справа з навет найдрабнейшымі ўрадоўцамі ці працаўнікамі ўстановаў. Ня гледзячы на тое, што наша супрацоўніца прыехала з «сацыялістычнай» Польшчы, навет ейныя былыя знаёмыя баяліся адкрыта зь ёй сустракацца й гутарыць. Рабілі яны гэта ўпотайкі, ня ўтойваючы перад ёю, што за «сувязь з заграніцай» ім пагражае страта працы. І тады — як казалі яны — ім «дарога назаўсёды закрытая».

Тое-ж самае з практыкаваньнем рэлігіі. Цэрквы паадчыняныя. На тое, што людзі хрысьцяць дзяцей і хаваюць памерлых з удзелам сьвятара — улады глядзяць праз пальцы. Але хопіць якому-небудзь удароўцу ці навет брыгадзіру ажаніцца ў царкве — і кар'ера ягоная скончаная. Тое-ж, зразумела, чакае тых, каго зловяць пры слуханьні замежных радыяперадачаў. Аднак іх слухаюць — навет купляюць дзеля гэтага супольна, накалькімі сем'ямі, радыяпрыймальнікі..

Яшчэ характэрны факт: **Бадай усе** старшыні калгасаў у Маладэчаншчыне — **Расейцы.** «Мала таго — ад двух гадоў прысылаюць навет брыгадзіраў. «У нас цяпер тут — усё рускія. Ёсьць бедныя, простыя — ну і **рускія...»** — такая была рэпліка аднаго з размоўцаў-калгасьнікаў, зь якім давялося гаварыць на гэтую тэму наведвальніцы з Польшчы.

Вось, без прапагандовых прыкрасаў — тое, што апісала нам наша супрацоўніца. Высновы, як мы ўжо зазначалі, хай чытачы зробяць самі. На заканчэньне — яшчэ адна рэпліка аднавяскоўца наведвальніцы: «Нам ужо няма чаго губіць. Калі яшчэ ў саўгас загоняць, карову адбяруць, дык і зусім ня будзе з чаго жыць. Нам ужо й вайна ня страшная...»

Ці можам мы ўсьведаміць сабе ўвесь трагізм гэтых словаў?

**Ул. Неманові ч**

# Канфлікт навукоўцаў з дыктатурай

Газэта «Літаратура і Мастацтва» з 15 лістапада зьмясьціла артыкул, у якім паведамлялася аб праведзенай нядаўна нарадзе працаўнікоў Інстытуту літаратуры Акадэміі навук БССР супольна з сэкцыяй Саюзу пісьменьнікаў БССР на тэму «вытокаў і станаўленьня мэтаду сацыялістычнага р,алізму ў беларускай літаратуры». Гэтыя нарады выкліканыя тым, што Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР распачаў працу над стварэньнем шматтомнай гісторыі беларускай літаратуры.

Артыкул ў газэце «Літаратура і Мастацтва» зьвярнуў нашую ўвагу таму, што ягоныя аўтары, напэўна самі гэтага не жадаючы, адлюстравалі ў ім вялікія супярэчнасьці, якія існуюць паміж вядучымі літаратуразнаўцамі і літаратурнымі крытыкамі БССР у іхных паглядах на мэтад гэтак званага «сацыялістычнага рэалізму» і на беларускую дарэвалюцыйную літаратуру.

Ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў усе падсавецкія, а ў тым ліку і беларускія пісьменьнікі ў сваёй літаратурнай творчасьці павінны кіравацца мэтадам гэтак званага «сацыялістычнага рэалізму». Аднак, як даведваемся з прыгаданага артыкулу ў газэце «Літаратура і Мастацтва», беларуская савецкая літаратуразнаўчая навука і да сяньня ня можа дакладна акрэсьліць, што такое «сацыялістычны рэалізм», што трэба разумець пад элементамі сацыялістычнага рэалізму. Вось што гаварыў крытык і літаратуразнаўца Васіль Івашын, які выступіў з дакладам на нарадзе (цытуем пераказ ягоных словаў рэдакцыяй газэты «Літаратура і Мастацтва»):

«...хоць сьцьверджаньне аб наяўнасьці элементаў сацыялістычнага рэалізму ў беларускай перадкастрычніцкай літаратуры атрымала даволі шырокае распаўсюджаньне ў працах нашых літаратуразнаўцаў, яшчэ ня высьветлены навуковы зьмест гэтага паняцьця, не ўстаноўлена, што трэба разумець пад «элемэнтамі сацыялістычнага рэалізму», у чым яны канкрэтна праяўляюцца».

Ня цяжка сабе ўявіць палажэньне беларускіх пісьменьнікаў, якіх змушаюць пісаць паводля рэцэпту, які, фактычна, ня існуе...

Далей мы даведваемся, што беларускія літаратуразнаўцы апынуліся ў зусім бязвыхадным палажэньні, калі перад імі паставілі цяпер заданьне акрэсьліць «вытокі і станаўленьне мэтаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры». Некаторыя зь іх, магчыма, каб дагадзіць партыі, у сваіх навуковых працах пачалі шукаць пачатку гэтага мэтаду ў беларускай літаратуры далёка перад рэвалюцыяй — у творчасьці Купалы, Коласа, Цёткі, Гартнага і іншых. Да іх належыць і загадчык кафедры беларускай літаратуры пры Акадэміі навук БССР Міхась Ларчанка.

Трэба адзначыць, што ў дыскусіі на гэтую тэму цікавыя думкі выказаў Клышко. Але ён таксама спыніўся на паўдарозе да праўды, заявіўшы, што «Ларчанка **ня мае рацыі,** калі ў сваёй кнізе («На шляху рэалізму») сьцьвярджае, нібыта Янка Купала і іншыя пісьменьнікі да рэвалюцыі кіраваліся **сацыялістычным ідэалам».** Мы гаворым «на паўдарозе да праўды» таму, што Клышко не дагаварыў да канца і не ўдакладніў, якімі-ж ідэаламі кіраваўся Я. Купала і іншыя беларускія пісьменьнікі дарэвалюцыйнага пэрыяду. Прынамся так выглядае з артыкулу ў газэце «Літаратура і Мастацтва».

І вось гэтае недагаворваньне і зьяўляецца прычынай тых тупікоў, у якія ў БССР заходзіць усякая навукова-дасьледная праца ў галіне беларускай гісторыі, у тым ліку й гісторыі беларускай літаратуры. Прычына-ж недагаворваньняў зусім відавочная. Усім ведама, што беларуская дарэвалюцыйная літаратура, асабліва літаратурная творчасьць Янкі Купалы, разьвівалася пад знакам беларускай нацыянальнай рэвалюцыі. Ейныя моцна выяўленыя сацыяльныя матывы мелі толькі ўспамагальнае значэньне, і былі поўнасьцяй падпарадкаваныя ідэям нацыянальнай рэвалюцыі, якая, на думку ўсіх тагачасных пісьменьнікаў, была здольная найлепш разьвязаць і ўсе складаныя сацыяльныя пытаньні. Гэта — гістарычны факт. А гаварыць аб ім у БССР ўсё яшчэ срога забаронена.

Аднак гэты факт добра ведамы сучасным беларускім літаратуразнаўцам на Бацькаўшчыне. Таму цяпер, калі Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР распачаў працу над выданьнем шматтоміку аб гісторыі беларускай літаратуры, беларускія дасьледнікі яшчэ раз пастаўленыя перад паважным канфліктам сумленьня, сумленьня навукоўца. Гістарычныя факты гавораць адно, а партыйная дыктатура вымагае прамоўчваньня або перакручваньня гэтых фактаў. Што пераможа — сумленьне навукоўцаў ці партыйны ціск — мы пабачым пасьля выхаду з друку заплянаванага выданьня.

**А. З.**

# Беларусы ў Чыкаго

Чыкаго ў беларускім жыцьці важнае перадусім тым, што тут пасьля Першае сьветавай вайны апынуліся некаторыя сябры ўраду БНР: Язэп Варонка і Янка Чарапук-Змагар. Яны тут заснавалі першую ў ЗША беларускую арганізацыю, абодвы тут жылі, дзеялі й абодвы тут пахаваныя на магільніку ў г. зв. Вайцяхове. На гэтым-жа магільніку спачыў тут і ведамы беларускі грамадзкі дзеяч і каапэратар Адвард Будзька.

У Чыкаго першыя ў Амэрыцы аселі й беларускія сьвятары Янка Тарасэвіч і Язэп Рэшэць, першы зь якіх і цяпер кіруе беларускай каталіцкай парахвіяй усходняга абраду, а другі спачывае на манастырскім магільніку ў Лісьле. На Чыкаскім магільніку спачыў і яшчэ адзін ведамы тут беларускі грамадзкі й рэлігійны дзеяч Лабач.

У Чыкаго знаходзяцца сотні тысяч Беларусаў передваеннае заработнае эміграцыі, але для Беларусі ў пераважаючай бальшыні яны ўжо поўнасьцю страчаныя: праваслаўныя ўважаюць сябе за Расейцаў, а каталікі — за Палякаў. Сьветлае памяці міністар Язэп Варонка быў заснаваў тут радыяпункт, які цяпер вядзе ў расейскай мове ягоная жонка — Палячка. Усе тут расейскія арганізацыі й парахвіі твораць пераважна старыя эміграны Беларусы й часткава Ўкраінцы.

Новая беларуская паваенная эміграцыя ў Чыкаго заснавала дзьве агульныя беларускія арганізацыі: Згуртаваньне Беларусаў штату Ілінойс і Беларуская Нацыянальная Рада. Існуе такжа арганізацыя беларускае моладзі. Існуюць тут і дзьве беларускія парахвіі ўсходняга абраду. У ваднэй служаць а.а. Янка і Ўладзімер Тарасэвічы, якія належаць да юрысдыкцыі Рымскага Апостальскага Пасаду, а ў другой — япіскап Фінкоўскі, які зьяўляецца нявыразнае юрысдыкцыі.

Нажаль, ня ўсе новыя беларускія эмігранты належаць да ўспомненных беларускіх арганізацыяў і парахвіяў. Ёсьць і такія, што, як і передваенныя эмігранты, пайшлі служыць або Расейцам, або Паляком. Тут заўважваецца тое дзіўнае зьявішча, што многія Беларусы з усходніх частак нашае Бацькаўшчыны, будучы ў васнаўным праваслаўнымі, горнуцца да Палякаў і належаць да польскіх арганізацыяў і парахвіяў, а некаторыя з заходніх частак Беларусі выразна сымпатызуюць Расейцам. Відаць, нашыя «апякуны» з Усходу й Захаду гэтак абрыдлі Беларусам, што яны стрымгалоў уцякаюць ад сваіх «дабрадзеяў», але ўцякаючы не разумеюць, што пападаюць з агню ды ў прысак.

У папярэдніх гадох паміж сябрамі існуючых тут дзьвюх беларускіх арганізацыяў існавалі войстрыя антаганізмы, упярэджаньне й злосныя спрэчкі. Але з прыемнасьцю трэба адцеміць, што апошнімі гадамі зарысоўваецца між абедзьвюма групамі што раз большая згода й нацыянальнае адзінства. Най-

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)



Памяць ня доўгая, любасьць ня вечная;
Сірасьць, бязьлюднасьць — іх трудна нясьці;
Мо, пажагнаўшыся з старым навечнае,
З шляху зьвярну, па другім каб ісьці.

Страшна мне навет аб гэтым і згадаваць,
Страшна і думаць, і я не хачу.
Толькі-ж надзеі ня маю, чым зрадаваць
Сэрца і сьлёзы ссушыць у ваччу.

Вось у чым гора бадзягу бясщчаснаму
Вось чаму сэрца маё так баліць,
Вось чаму хочацца к сонейку яснаму —
Хоць-бы пабачыць, тым цяжар зваліць!

Цяжка мне, праўда. Ці-ж трэба мне жаліцца?
Цяжка-ж другім — іх мільёны усіх, —
Жыцьце іх рушыцца, б'ецца і валіцца,
Гінуць надзеі і думкі у іх.

Многа на сьвеце усякага творыцца!
Многа хто вершаў аб гэтым злажыў.
Часам паслухаеш, хто разгаворыцца,
Бог яго ведае, як яшчэ жыў?!

Біўся зь няпраўдай, зь бядой і гаротаю,
Сэрца у попел няшчадна спаліў,
Сілы ўсе страціў у бойцы зь цямнотаю.
Кроў, не рахуючы, кроў свае ліў!

Што-ж тады плакаці мне, маладзейшаму?
Я-ж не прайшоўшы пуціну сваю:
Сэрца засталася. Не, весялейшаму,
Трэба мне быць, а я плачу — пяю.

1912

Я. Лёсіку

### ЗЬ ПЕСЬНЯЎ НЯВОЛІ

Праўду мусім ведаць, браце:
Покуль мы ня ў роднай хаце,
Не на ніве покуль роднай, —
Нашай думачцы ніводнай
Век ня спраўдзіцца, ня зьбыцца, —
Ў цеснай клетцы мусім біцца
Нашых думак і жаданьняў
І няволі налягганьняў.

У гароце, у няволі,
Без пасьпеху, а паволі
Розум нешта ў нас выймае,
Душу смокча-выпівае
І за шыю душыць больна,
Што часамі аж міжвольна
З болю гэтага заплачаш,
Што аж сонейка ня бачыш!

Мусім ведаць, што мялеем,
Што паволі ўсе малеем,
Ня жывём, але канаем, —
Зранку долы вымяраем
І надзею штодня губім,
Хоць, як жыцьце, яе любім.

Нашы брацьце — там, на волі,
Паляглі, маўляў на полі,
Чыстым полі ваявецкім,
Велькім колам маладзецкім,
З пасячонымі плячыма,
З выпалёнымі вачыма.

Мы паўсталі зь яснай казкі
Братняй міласьці і ласкі,
З краю-далі, краю-сьвету,
Дзе цяплюхна, вечна лета, —
А нас кінулі у пушчы,
Ды у холад, дый у гушчы,
Дзе брат з братам вечна б'юцца:
Спруцянелі, а дзяруцца.

Мы хацелі даць ім сьвету,
Зруйнаваці пушчу гэту,
Даць ім міласьці прагненьне,
Дзён шчасьлівых даці меньне...
Мы ішлі вялікім валам,
Войскам буйным а зухвалым,
Ды ня стала нашай мочы:
Сьвет слабейшы быў за ночы...

Што-ж? Няхай! Няхай так будзе.
Мусіць гэтак доля судзе.
Цяжка, страшна жыці, праўда,
Дык цярпеці-ж нам ня наўда.
Так на моры-акіяне
Часам хваля перастане...
Можа-ж прыйдзе навальніца,
Толькі-б ветрыку зьвяціца!

Будзем у неба цікавацца
Будзем зорак прыглядацца;
Без пакоры у пакоры
Перабудзем сваё гора.
Мо і нам аднекуль зь неба
Скажуць: «Чуйце, ўстаньце, трэба!»
І ўзмацняць. Парвуцца путы, —
Будзе вольны, хто закуты.

Не адны, а з грамадою,
Разам зь людзьмі, чарадою
Пойдзем поплеч зноў у далі,
Скуль прыйшлі і скуль паўсталі.
А калі-ж ня стане сілы
Ўстаць на гэты вокліч мілы, —
Сэрца хоць мацней заб'ецца,
Твар пахмурны усьміхнецца.

Можа-ж быць — раней загінем,
Дык усё-ж мы след пакінем,
Бо, браток, хоць промень сьвету
Мы прынесьлі ў пушчу гэту!

* * *

**Вечнай памяці Тараса Шаўчэнкі**

За тысячу вёрст ад радзімага краю,
У стэпе, пустэчы бязьлюдный,
Сумуець казак па загубленым раі,
Па Маці-Украіне цуднай.

Няма яму волі, пад вартою пільнай
Начуе, і днюе, і ходзіць,
Ніводнай ня мае людзіны прыхільнай,
Самотна дзянёчкі праводзіць.
А думка, як віхар, імчыцца, нясецца
І ўсіх абдзірае памалу.

У душы яго ласка, каханьне малюець
Пакутныя вобраз бяз сказы.
Ах, мучаць Украйну, рабуюць, ганьбуюць!
Імчацца, нясуцца абразы:

## Зь беларускай песеннай скарбніцы

### У месяцы верасьні

**(Жартоўная народная песьня)**

Хутка
ой
У ме- ся- цы ве- рась- ні вы- па- ла па- рош- ша
Хор:
дзед ба- бу па- лю- біў, што ба-ба ха- ро- ша.

1. У месяцы верасьні выпала пароша.
Дзед бабу палюбіў, што баба хароша (2 разы).

2. І крывая, і сьляпая, яшчэ к таму злая,
І крычыць, і бурчыць, супраць дзеда не змаўчыць (2 разы).

3. Убярыся, бабка, у новае бельле:
Я-ж цябе павяду з сабой на вясельле (2 разы).

4. Убралася бабка у новае бельле:
Цяпер вядзі мяне, дзед, з сабой на вясельле (2 разы).

5. Узяў дзед бабку за белую ручку
І сьпіхнуў дзед бабку з мосту у рэчку (2 разы).

6. Цяпер, бабка, кайся, трохі пакупайся!
А як бабка узныркае, дык дзед кіем папіхае (2 разы).

7. Прыйшоў дзед да дому і пачаў бажыцца:
І ей-ей, і ей-Богу, ня буду жаніцца! (2 разы).

8. Раздумаўся дзедка ды ў далоні плешча:
Калі буду жыў-здароў, ажанюся! (2 разы).

**Заўвага:** Арыгінальная мэлёдыя ў першых двух тактах ідзе ў ніжнім голасе, у трэйцім такце пераходзіць у верхні голас, а ў вапошнім чацьвертым такце ўзноў вяртаецца ў ніжні голас.

### Ой, пры Дунаі

**(Лірычная народная песьня)**

Мерна
Ой, пры Ду- на- і пры ці- ху- сень- кім,
ой
ой, поз- на, поз- на пры ці- ху- сень- кім.

1. Ой, пры Дунаі, пры ціхусенькім,
Ой, позна, позна, пры ціхусенькім.

2. Дзяўчынка мыла, вянок забыла,
Ой, позна, позна, вянок забыла.

3. Ды хто-ж паедзе па мой вяночак?
Ой, позна, позна, па мой вяночак.

4. Хлопец дзяўчыне кажа: паеду,
Коніка маю, вяночак знаю.

5. Ой, пры Дунаі, пры ціхусенькім,
Ой, позна, позна, пры ціхусенькім.

**Заўвага:** Арыгінальная мэлёдыя ідзе ўвесь час у верхнім голасе.

# Слуцкая гадавіна у вольным сьвеце

### У ЧЫКАГО

Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкаго ладзіла 27-га лістапада ўрачыстую акадэмію ў памяць і чэсьць 40-ой гадавіны Слуцкага Паўстаньня.

Згуртаваньне Беларусаў штату Ілінойс 10-сьнежня ладзіла такую-ж урачыстую акадэмію з нагоды гадавіны свайго існаваньня.

Акадэмія на Слуцкую гадавіну адбылася ў залі Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру на 3107 Вэст Фулертон Авэню ў Чыкаго. Роўна а 6-ай гадзіне папаўдні а. Уладзімер Тарасэвіч адслужыў Паніхіду, падчас якой прыгожа і ўрачыста пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам праф. М. Куліковіча. Да гэтага хору належыць і слаўная опэрная сьпявачка Надзея Градэ, а падчас гэтае Паніхіды далучыўся да хору й сп. генэрал Дзямідаў.

Пасьля Паніхіды ў прылеглай залі распачалася ўрачыстая акадэмія. Старшыня Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс сп. А. Беленіс, адкрываючы акадэмію, запрапанаваў прысутным ушанаваць памяць загінуўшых за Бацькаўшчыну ўстаньнем і хвілінай цішыні. Далей магістар Вацлаў Пануцэвіч з глыбокім усхваляваньнем прачытаў цікава апрацаваны рэфэрат. Найцікавейшым у рэфэраце было тое, што, як падаў прэлегэнт, бальшавікі перш утварылі БССР толькі на тэрыторыі тых паветаў Меншчыны. дзе адбываліся супраць іх паўстаньні Беларусаў, як Слуцкае й іншыя.

Пасьля рэфэрату сп-ня Ванда Махнач памастацку прачытала паэму нашае паэткі Натальлі Арсеньневай «Косы», прысьвечаную гэраічным Случчаком. Як глыбокія словы паэмы, гэтак і мастацкія здольнасьці дэкляматаркі гэтак зачаравалі слухачоў, што ў залі запанавала напружаная цішыня й вочы прысутных блішчэлі ад сьлёзаў. Пасьля гэтага былі прадэклямаваныя адпаведныя вершы сп. М. Жызьнеўскім і ягонаю маленькаю дачушкаю, а так-жа ўжо ведамаю тут дэкляматаркаю маленькаю Ірэнкаю Мароз.

На заканчэньне выступіла опэрная сьпявачка сп-ня Надзея Градэ, спатканая гучнымі воплескамі й выклікаяная потым на біс. Акампаньяваў сьпявачцы праф. М. Куліковіч.

**Я. Асімовіч**

### У ЛЁНДАНЕ (КАНАДА)

Слуцкая гадавіна Беларусамі гораду Лёндану (Канада) сёлета была адзначаная вельмі добра. Спачатку беларускай групай быў паложаны каля памятніка Няведамага Жаўнера ў цэнтральным парку прыгожы вянок, на якім было выпісана пабеларуску: ТЫМ, ШТО ПАЙШЛІ ПАМІРАЦЬ, КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА» й паангельску: „Byelorussian Alliance in Canada, London Branch“. Пасьля злажэньня вянка і ўшанаваньня памяці загінуўшых змагароў за вызваленьне Беларусі хвілінаю цішыні, старшыня аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. А. Монід запрасіў прысутных у дом сп. Іваноўскага, дзе ў прыгожа ўдэкараваным дзеля гэтага пакоі прысутныя за шклянкай гарбаты праслухалі рэфэрат сп. Лявона Ж.

Трэба адцеміць, што дакладчык не пашкадаваў сілаў і часу на добрае прыгатаваньне рэфэрату, які прысутнымі быў выслуханы з глыбокай увагай. На просьбу некалькіх сяброў дапоўніць рэфэрат д-р Б. Рагуля адцеміў, што рэфэрат ахапіў увесь прабег Слуцкага паўстаньня і таму, калі-б нешта прыбаўляць, дык гэта было толькі паўтарэньнем ужо сказанага.

Уся ўрачыстая сходка закончылася адсьпяваньнем беларускага гімну.

Выказваючы асаблівую падзяку сп. Лявону Ж. за прыгатаваньне добрага рэфэрату й спадарству Іваноўскім за прыгатаўленьне гарбаткі й вянка, хацелася-б выказаць пажаданьне, каб у будучыні можна было бачыць больш прысутных на падобных урачыстасьцях, ня толькі прадстаўнікоў сем'яў, але й цэлых сем'яў.

**Брат**

### У БРАДФОРДЗЕ (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Беларусы ў Брадфорд годна адзначылі 40 Ўгодкі Слуцкага Змаганьня 27 лістапада. Заўпакойную Літургію й прысьвечаную ўгодкам глыбака-патрыятычнага зьместу пропаведзь сказаў а. Аляксандар. Пад дзеяньнем пропаведзі й мінорнага напеву паніхіды ў думках прысутных паўстаў вобраз ня толькі Слуцкага Змаганьня, але мімаволі аднавіліся ў памяці й паасобныя мамэнты змаганьня, месцы, дзе яно адбывалася, і імёны сяброў, якія аддалі жыцьцё ў змаганьні за вызваленьне Бацькаўшчыны.

Пасьля Багаслужбы старшыня Аддзелу ЗБВБ сп. Паўлоўскі адчыніў акадэмію, заклікаючы прысутных ушанаваць памяць Слуцкіх Гэрояў хвілінаю цішы.

Ад імя Галоўнае Ўправы вітаў прысутных заступнік старшыні а. А. Надсон.

А. Аляксандар, прамаўляючы зазначыў, «што мы сабраліся не на хаўтуры і не на выкліканьне духаў паўшых гэрояў, бо Случчакі не памерлі духова, а павінны быць жывымі паміж нас і памяць аб іх павінна пераказвацца наступнаму пакаленьню, а дзеля гэтага належыць пераказваць не прывітаньне, а спачуваньні, бо Бацькаўшчына надалей застаецца паняволенаю».

Зьместоўны рэфэрат аб прабегу Слуцкага Змаганьня прачытаў сп. Паўлоўскі. Вучні Беларускае Нядзельнае школкі — Ганна Лемяшонок і Алесь Міхалюк — прадаклямавалі вершы.

Увесь прабег акадэміі ўлучна з прасьпяванымі песьнямі «Сьпі пад курганам гэрояў» і «Магутны Божа» былі сп. Бутам натраныя на стужку. Належыць зазначыць, што акадэмія ў гэтым годзе прайшла больш ажыўлена, дзякуючы прысутнасьці большага ліку ўдзельнікаў і то ня толькі з Брадфорд, але й ваколіцаў і зь Лідс.

### У БІРМІНГАМЕ (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Паводля прыкладу папярэдніх гадоў, Беларусы ў Бірмінгам запрасілі а. Аляксандра, каб супольна памаліцца за супакой душ ня толькі паўшых гэрояў Слуцкага Паўстаньня, але й за ўсіх тых, што аддалі жыцьцё ў беларускім вызвольным змаганьні.

Вечарам 3 лістапада у Сэрбскай Царкве была адслужана Вячэрня, пасьля якое а. Аляксандар у пропавядзі выясьніў значаньне сьвята Увядзеньне ў Храм Прэсьвятое Багародзіцы й выказаў шчырую падзяку Сэрбскаму праваслаўнаму народу за аказаную магчымасьць узьнесьці шчырыя малітвы да Бога ў іхняй сьвятыні.

Назаўтра 4 сьнежня Літургія і паніхіда былі адпраўлены ў ангельскай Царкве. Сваю пропаведзь а. Аляксандар абаснаваў на цытатах з Сьв. Пісьма: «Ня бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы ня могуць забіць» і «Калі насеньне кінутае ў зямлю замрэ, то ня дасьць плёну» і што аб нясьмяротнасьці душы вучыць нас ня толькі навука аб веры, але прышлі да лягічнай неабходнасьці пацьвердзіць гэта гэткія філёзафы, біялёгі і хірургі як: Дрыш, Іксюць, Шляйх.

### У МАНЧЭСТАРЫ (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Беларусы Манчэстару адзначалі ўгодкі Слуцкага Змаганьня 11-га сьнежня. Як і ў іншых беларускіх асяродках, у гэты дзень а. Аляксандрам была адслужана Сьв. Літургія й Паніхіда ў ангельскай Царкве. Апрача Беларусаў на Багаслужбе прысутнічалі Украінцы. Багаслужбу ўпрыгожваў, як заўсёды, прыгожы хор, які сваім мэлёдыйным сьпевам дзеяў на малітоўны настрой вернікаў.

У пропавядзі а. Аляксандар адзначыў ня толькі асаблівае гістарычнае значаньне й палітычную вагу Слуцкага Змаганьня, але закрануў важнейшыя мамэнты змаганьня за незалежнасьць Беларускае Праваслаўнае Царквы, якая адыгрывала й адыгрывае вялікую ролю ў беларускім вызвольным змаганьні, бо зь ёю зьвязана культура, маральная і фізычная сіла і ўплыў на вонкавую палітыку, аб чым сьветчыць гісторыя і сьв. мучанікі Беларускае Зямлі.

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

### ПАДЗЯКА

**Усім тым беларускім арганізацыям і ўстановам, а так-жа паасобным нашым суродзічам, якія прыслалі нам прывітаньні з каляднымі сьвятамі й пажаданьні на Новы 1961 Год,выказваем на гэтым месцы нашую шчырую падзяку.**

**Рэдакцыя й Выдавецтва**
**«Бацькаўшына»**

---

«Вецер вее, сонца грэе
На стэпе шырокім,
Што відаць здалёк, чарнее
Дзе курган высокі?
Сьляпы гэнам на бандуры
Перабэньдзя грае,
Аб казацтве, аб гэтманьсьцьве
Сам сабе сьпявае:

— «Ой, лунала наша слава,
Аж у звоны білі!
Меч гэтманскі і булава
К каралём хадзілі.
Мелі славу, мелі долю,
А цяпер прапала;
Мелі шчасьце, мелі волю,
А цяпер ня стала.
Стогнуць, плачуць стэп і людзі
Пад чужой рукою.
Вораг цёмны ўсьсеў на грудзі,
Не дае спакою.
Дзе Багдане, слаўны Хмелю,
Дзе ты? Адгукніся!
За народ наш, за Ўкраіну,
Браце, заступіся!»
Сонца грэе, вецер вее,
Па стэпе разносіць
Тыя словы залатыя, —
Да касцоў даносіць.
Учулі людзі праўду слова, —
Засьпявалі ціха
Аб тым зьдзеку-паняверцы,
Панаваньні ліха.

Пан аконам — бочка піва, —
Цівуны у злосьці:
«Ну-жма, хлопцы, жыва, жыва!
Бо зьдзяром да косьці!»
Сорам, сорам! Люд пакорны
Галавой сьхіліўся.
Пане, пане, — гадзе чорны,
Каб ты зь сьвету збыўся! . .

Адна за аднэю праносяцца зьявы,
Мігцяцца бясспынна абразы, —
Нявольнічы побыт і сьлёзы крывавы
І зьдзек глузаваньня, уразы.

Туды да няшчасных у думцы сягае
Пясьняр геніяльны прыгону,
І Богу на небе любіць прысягае
Народ свой, — любіці да скону.

* * *

Эх, сягоньня, ў гэту ночку
Я ўцяку адгэтуль проч!
Шэрым воўкам па лясочку, —
Хай здагоніць, хто ахвоч!

Хай тады сярод дарогі
Станець хто — ня будзе рад:
Чорны вуж абкруціць ногі, —
Буду вужам, буду гад!

Хай шукаюць тады ў лесе
Цёмных, вузкіх, воўчых троп!
Як арол у паднябесьсе,
Я ўзьляту пад земскі строп.
У небе роўным, чыстым шляхам,
Яснай зоркай палячу
І скачуся панад дахам
Роднай вёскі і ўскрычу:

— Гэй, хто ёсьць тут! Люд галодны,
Люд пакутны! Да мяне!
Станьма, брацьце, ў шыхт паходны —
Наша гора праміне.

Досыць нам зь нядолі віці
Ценкі жыцьця свайго пас.
Слухай, люд: прынёс я віці,
Хто за мною, брацьце? — Час!

Устануць, рушаць: «Проч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы люд убогі,
Ўсё узяць, ці ўсё згубіць» . . .
Думкі, думкі-звадыяшкі,
Ах, ня мучце вы мяне!
Вам ўсё гулі, а мне цяжка,
Мне няволя ня міне . . .

### ВЯСНА

Эх, вясна, вясна ! . .
Як прыйшла яна,
Прынясла сьвятла,
Прынясла цяпла.
Наліла ў лагох
Сьнегавой вады,
Расьцьвіла ў лугох,
Расплялa сады.
Прабудзіўся лес
На вясьняны шум,
А глыбокі сум
Мне ў душу улез . . .

Першыя гусі ужо праляцелі,
Палі на рэчцы, узгорак абселі;
Гвагалі доўга, нараду зьбіраўшы,
Потым згадзіліся, дось пакрычаўшы;
Ўзьляцелі высока над сосны, над елі
І недзе прапалі ў нябескім касьцеле . . .

Ах, каб крыльле, крыльле мне
І той лёт гусачы,
Я прапаў-бы ў гарыне,
Хто-б мяне і бачыў!
Раз-у-пораз раз-у-пораз,
У неба-б біў крыламі . . .
Гусі, гусі, я да вас,
Я ляту за вамі!
Дзе былі вы? Што было там?
Дзе жылі вы? Над балотам?
Мо ля рэчкі? Мо ля хаткі?
Ля сялібы майго таткі?
Мае маткі, майго браткі,
Вы ня бачылі часамі?
А сястрыцы? А дзявіцы,
Мае любы,
Вы ня бачылі часамі?
А у шлюбы
Ня зьбіраецца сястрыца?
Не? А люба, чараўніца ? . .
Ці там мгліста,
Ці там ясна?
Красна? Міла?
Гусі? Шчасна ? . .

(Працяг будзе)

